Адна зямля

Астравец
Мядзел
Смаргонь
Ашмяны
Вілейка
Маладзечна
Валожын

“Браты-славяне”: “Для душэўнага спакою лепш жыць у Вілейцы”

старонкі 20-21


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

2 мая 2014 года №18 (992)




**26-гадовы маладзён за тыдзень учыніў у Жупранах пяць падпалаў**

Хлопец выходзіў пакурыць, а калі вяртаўся, непадалёк гарэлі дамы ці павеці

старонка 4

**Як зменіцца расклад электрычак у маі**

с. 3

**Як будуць адключаць гарачую ваду ў Маладзечне па вуліцах**

с. 3

**Футбол: каляндар гульняў каманд Маладзечна і Смаргоні**

с. 22

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Скраў відэакамеру са звалкі

**МЯДЗЕЛ.** Ад вечара 23 красавіка і па раніцу 24 нехта пранік у вагончык на тэрыторыі палігона цвёрдых бытавых адходаў Мядзельскай ЖКГ. Палігон знаходзіцца каля вёскі Мікасецк. Злодзей выкраў акумулятар, блок памяці да відэакамеры. А яшчэ зняў са слупа відэакамеру, – паведамляе ўпраўленне ўнутраных спраў аблвыканкама. Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж.

### Стварылі гімнастычны гарадок

**ВІЛЕЙКА.** У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры “Надзея” на Вілейшчыне завяршыўся беларуска-германскі праект “Архітэктура без межаў”. У ім удзельнічалі студэнты Беларускага нацыянальна-тэхнічнага ўніверсітэта і валанцёры з Германіі, сярод якіх былі архітэктары па ландшафтным дызайне. Цягам тыдня ўдзельнікі праекта разам з супрацоўнікамі цэнтра стварылі гімнастычны гарадок на стадыёне. Там устанавілі вулічныя трэнажоры, брусы і перакладзіны. Таксама на тэрыторыі цэнтра ўстанавілі турнікі, дааб-сталявалі пясочніцу, а ў лесе абуладкавалі пляцоўку з лавамі і месцам для вогнішча.

### Свет акіяна можна пабачыць у гімназіі-каледжы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Калекцыю ракавін, каралаў і іншых насельнікаў акіяна можна пабачыць у гімназіі-каледжы мастацтваў. Там працуе выстава настаўніка біялогіі і экалогіі **Дзмітрыя Ганецкага**. Сваю калекцыю Дзмітры збірае з васьмігадовага ўзросту. – Кожны экспанат калекцыі непаўторны, – прызнаецца Дзмітры, – і распавядаць пра іх я магу бясконца. Калі вы хочаце на свае вочы пабачыць, як нараджаюцца жамчужыны і даведацца, чаму ў мечаносцаў сіняя кроў, дзверы імправізаванага музея адчыненыя, але дамовіцца аб наведванні трэба загадзя.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**



# Параўнаць шматдзетную сям’ю можна з вуллем

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА. Лепшую шматдзетную сям’ю Міншчыны абралі на мінулым тыдні. З гэтай нагоды мы запыталіся ў сем’яў-удзельніц з Вілейкі, Мядзела, Валожына і Маладзечна, чаму шматдзетныя сем’і, на іх погляд, самыя шчаслівыя.**

Сем’і спаборнічалі ў пяці конкурсах. У конкурсе “Знаёмства” ім давялося прадставіць не толькі сваю сям’ю, але і свой горад або вёску. Пахваліцца сваімі ўменнямі і распавесці пра сямейныя захапленні.

Другі конкурс быў цалкам прысвечаны дзецям. Матулі і таты дзяліліся з прысутнымі сваімі поспехамі і дасягненнямі ў выхаванні дзетак. Дарэчы, конкурс называўся “Бацькоўскае шчасце”.

У астатніх двух конкурсах сем’ям давялося прадставіць праект па здаровым ладзе жыцця, рыхтаваць выставу работ, зробленых сваімі рукамі і ладзіць майстар-клас па жывапісе, вышыўцы і іншае.

Вядома, конкурсы былі няпростыя, і сем’ям давялося шмат папрацаваць, але кожная мама-ўдзельніца ўжо пераможца у самым важным жыццёвым конкурсе – выхаванні сваіх дзяцей.

Пасля абвяшчэння выніказ конкурсу, мы задалі тры аднолькавыя пытанні кожнай сям’і-ўдзельніцы:

1. Што самае цікавае і лёгкае ў выхаванні дзяцей у вялікай сям’і?
2. Як размеркаваць сваю любоў і ўвагу пароўну на ўсіх?
3. Ці знаходзіце час для сябе?

### “Як вы жывяце ў гэтым вуллі?”

Сям’я **Арцішэўскіх** з Радашкавіч выхоўвае сем непаўналетніх дзяцей.

Маці, **Таццяна**, кажа:

– Самае прыемнае і цікавае ў выхаванні дзяцей – гэта бачыць, як яны растуць, пераўтвараюцца ў асоб. Растуць мае памочнікі, мая надзея на будучае. Дзеці шмат увагі да сябе не патрабуюць, дастаткова выдзеліць ім 15-20 хвілін у дзень. Галоўнае, калі дзецям спатрэбяцца гэтыя хвіліны, быць для іх заўсёды вольнай і гатовай выслухаць. А што датычыцца часу для сябе... Зразумела, ён ёсць, толькі нам з мужам ён не патрэбны. Мы прывыклі рабіць усё разам, час бавіць разам. Нават у летнік нашы дзеці не ездзяць, заўсёды дома, заўсёды побач.

Суседзі і сябры, якія прыходзяць да нас у госці, здзіўляюцца: “Як вы жывяце ў гэтым вуллі?”. А мне падабаецца, калі ўсе разам. Дзеці і танцамі, і музыкай займаюцца. Можаце ўявіць сабе, як у нас весела.

### Сямейная традыцыя – казка на ноч

Пераможцы конкурсу **сям’я Вольгі і Аляксандра Суханавых** з Вілейкі расказваюць, што перамога на конкурсе была не самым важным для іх.

**Вольга Суханава**, маці вялікага сямейства, расказвае:

– Калі вярнуліся дамоў пасля конкурсу, дзеці так радаваліся, так абмяркоўвалі падзеі! Апошні раз я іх такімі ўзрушанымі бачыла пасля наведвання дэльфінарыя. А для мяне галоўнае было тое, што мы былі ўсе разам.

**Наталля ТУР.**

Працяг на 2-й старонцы.




Фота з біблятэкі сям'і СУХАНАВЫХ.

Пераможцы конкурса "Шматдзетная сям'я." Сям'я Суханавых з Вілейкі. Бацькі Вольга і Аляксандр і дзеці: старэйшы сын Дзмітры, дачка Юля і малодшы сын Сямён.

КОНКУРСЫ

# Параўнаць шматдзетную сям'ю можна з вуллем

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА. Лепшую шматдзетную сям'ю Міншчыны абралі на мінулым тыдні. З гэтай нагоды мы запыталіся ў сямей-удзельніц з Вілейкі, Мядзела, Валожына і Маладзечна, чаму шматдзетныя сем'і, на іх погляд, самыя шчаслівыя.**

Самае прыемнае ў выхаванні дзяцей, па словах Вольгі, бачыць, як старэйшы сын Дзмітры, якому цяпер 12 гадоў, клапоціцца пра малодшага брацка Сямёна, якому 9 месяцаў.

– Я вельмі хвалявалася, што паміж дзецьмі будзе рэўнасць, што не змагу ўсім даць столькі ўвагі, колькі дзеці патрабуюць. Але мае хваляванні не спраўдзіліся. Мне дзеці наадварот, дапамагаюць з малодшым сынам. І памперс пададуць, і накормяць і пагуляюць з Сямёнам. А па вечарах у нас ёсць сямейная традыцыя – казкі. Спачатку Дзіма чытае казку Юлі (сярэдняй дачцэ, ёй 5 гадкоў) і Сямёну, а потым я ці муж чытаем агульную казку для ўсіх. І ніколі не кладземся спаць, не пацалаваўшы адзін аднаго.

І яшчэ, Вольга і Аляксандр не забываюцца пра сябе. Рамантычныя вечары ладзяць і сюрпрызы адзін аднаму робяць рэгулярна.

– І калі мы высвятляем паміж сабой нейкія спрэчныя пытанні, робім гэта за шчыльна зачыненымі дзвярыма, каб дзеці не чулі.

### Задавальненне – рабіць з дзецьмі ўрокі

Сям'я Качыных з Івянца прызнаецца, што калі ў сям'і шмат дзяцей, самае цяжкае – гэта вызначыць, хто з іх насваволіў. А ўсё астатняе робіцца з задавальненнем.

– Напрыклад, мне самой вельмі цікава рабіць з дзецьмі ўрокі, – гаворыць **Аксана Качына,** – асабліва, калі ў нас усё атрымоўваецца. І ўвагі хапае ўсім, калі мы разам.

Бацька сямейства Сяргей **Качын** працуе ганчаром:

– У нас дома кавалкі гліны паўсюль. Але гэтага беспарадку не заўважаеш, калі ўсе шчаслівыя і занятыя агульнай справай.

### Бацька сямейства: магу пастаяць і на варотах

**Франц Масцяніца**, бацька вялікага сямейства з Мядзельскага раёну, распавёў "Рэгіянальнай газеце" пра тое, што самае лёгкае ў сям'і, дзе выхоўваецца шмат дзяцей – гэта клопат дзяцей адно пра аднаго.

– Бедныя тыя сем'і, дзе выхоўваецца адно дзіця, як ім тады хапае часу і цярплівасці? Калі дзеці пачалі падрастаць, цікавымі сталі іх пытанні. У нас трое дзяцей. Старэйшая **Дыяна**, якой 15, сярэдні **Дэяніс,** яму 12 гадоў і малодшы **Данік**, яму год і шэсць месяцаў. Дык вось, калі Дыяна і Дзяніс задавалі мне самыя нечаканыя пытанні, напрыклад, для чаго мы садзім расаду, мяне гэта вельмі весяліла.

Калі ў Франца ёсць вольны час, ён заўсёды гуляе з дзецьмі. І на варотах, калі трэба, пастаіць. І ў бадмінтон з дачкой пагуляе.

– Самы галоўны плюс у вялікай сям'і тое, – прызнаецца спадар Франц, – што ёсць самыя блізкія людзі, да якіх у любы час можна звярнуцца па дапамогу. Таму я ўсім жадаю вялікіх сем'яў.



Фота забяспечана сям'ёй АРЦІШЭЎСКІХ.

Сям'я Арцішэўскіх з Радашкавічаў ля Чырвонага касцёла ў Мінску.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

ПРЭМ'ЕРЫ

# Драмтэатр рыхтуе некласічны спектакль

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прэм'ера пройдзе 6 красавіка ў Мінскім абласным драмтэатры.**

Эпізоды часу вайны, свайго мінулага ўзгадвае галоўны герой. Ён ветэран. Праз яго пачуцці, успаміны рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Карзей паказвае гісторыю вайны.

"Памяць за сабой пакліч" – не класічны спектакль. Ён, хутчэй, музычна-паэтычны. Дыялог з залай – у вершах, песнях, музыцы.

У пастаноўцы таксама задзейнічанае відэа. Рэжысёр скарыстаўся дакументальнымі хронікамі, якія распавядаюць пра тыя часы. Але падзеі развіваюцца дынамічна. Герой выходзіць з аднаго ўспаміну і акунаецца ў іншы.

Праз такі рэжысёрскі ход спектакль закранае шмат бакоў ваеннага жыцця. Гэта і каханне, і гора, і страх, і адчай, і чаканне, і вера.

Галоўны герой – Барыс Дорын. Аднак у пастаноўцы ўдзельнічае фактычна ўся трупа. Хтосьці спявае, хтосьці чытае вершы. Рэжысёр па пластыцы – Алена Рахмангулава. Музычныя нумары рыхтаваў Эдуард Абрамовіч.

– Гэты спектакль мусіць зачапіць і моладзь. Яна не бачыла вайны. І мне здаецца, праз вершы і песні маладыя людзі змогуць лягчэй успрыняць яго, адчуць, – мяркуе Сяргей Карзей.

**Настасся РОЎДА.**





ЧЫГУНКА

# Змяняецца расклад электрычак на час Чэмпіянату свету па хакеі

**МАЛАДЗЕЧНА. У сувязі з правядзеннем Чэмпіянату свету па хакеі ад 9 да 25 мая часткова змяняецца расклад цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа на ўчастку Маладзечна-Мінск.**

| 9, 10 мая і з 12 мая па 20 мая | | |
|---|---|---|
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 10:50 | 10:45 | 12:33 |
| 15:33 | 15:39 ад Мінск-Паўночны | 17:19 |
| 19:45 | 19:55 | 21:34 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 12:39 | 12:36 | 14:09 да Мінск-Паўночны |
| 13:13 | 13:13 | 14:54 да Мінск-Паўночны |
| 17:50 | 17:48 | 19:23 да Мінск-Паўночны |
| **11 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 10:50 | 10:45 | 12:33 |
| 12:45 | 12:57 ад Мінск-Паўночны | 14:39 |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 16:33 | 16:50 | 18:34 |
| 20:44 | 21:05 | 23:06 |
| **12 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 00:26 | 00:31 | 02:11 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 12:39 | 12:36 | 14:14 у Мінск |
| 14:49 | 14:56 | 16:38 да Мінск-Паўночны |
| 17:50 | 17:54 | 19:34 у Мінск |
| 18:45 | 18:58 | 20:54 у Мінск |
| **22 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 19:45 | 20:13 ад Мінск-Паўночны | 21:47 |
| 20:44 | 20:47 | 22:47 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 13:13 | 13:18 | 15:04 у Мінск |
| 17:50 | 18:15 | 19:50 да Мінск-Паўночны |
| **24 мая** | | |
| Адпраўленнем з Мінска | Будзе адпраўляцца | Прыбываць у Маладзечна |
| 17:27 | 17:37 ад Мінск-Паўночны | 19:27 |
| 22:03 | 22:08 ад Мінск-Паўночны | 23:42 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 11:00 | 11:20 | 12:59 да Мінск-Паўночны |
| 12:39 | 12:39 | 14:12 да Мінск-Паўночны |
| 15:51 | 15:26 | 17:06 да Мінск-Паўночны |
| 19:52 | 19:52 | 21:34 да Мінск-Паўночны |
| **25 мая** | | |
| **Адпраўленнем з Мінска** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць у Маладзечна** |
| 14:50 | 14:40 | 16:25 |
| 15:33 | 15:38 ад Мінск-Паўночны | 17:19 |
| 20:44 | 20:50 ад Мінск-Паўночны | 22:45 |
| **Адпраўленнем з Маладзечна** | **Будзе адпраўляцца** | **Прыбываць** |
| 13:13 | 13:13 | 14:54 да Мінск-Паўночны |
| 18:45 | 18:50 | 20:32 да Мінск-Паўночны |

Тэл. для даведак **(8-0176) 74-24-23.**

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі станцыя Маладзечна УНП 600199541

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Калі адключаць гарачую ваду?

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарачую ваду у Маладзечне сёлета пачнуць адключаць з 19 мая.**

Паводле інфармацыі маладзечанскіх цепласетак, планавае адключэнне вады будзе праводзіцца **ад 19 мая па 1 чэрвеня** ў зоне кацельнай № 2.

У гэты перыяд будзе адсутнічаць гарачая вада:

дзіцячых садах № 2, 11, 14, 23, 24, 30, 31, 1, 18, 8;

мікрараёнах № 4, 6, 10, 11 ( Усходні);

у Вялікім Сяле;

Залінейным раёне;

Раёне станказавода;

Па вуліцах Янкі Купалы, Касманаўтаў, Ф. Скарыны, Будаўнікоў, Ламаносава, Б. Хмяльніцкага (акрамя дамоў №№ 42, 44.ю 44а, 46, 48, 5, 7, 9, 3, 3а, 3б, 3в);

Віленская (акрамя дамоў з № 1 па №10 уключна);

Валынца ( акрамя дамоў №№ 7, 9,10);

Прытыцкага, дамы №№1, 2, 3, 4, 5, 7, 8, 9, 11;

Грамадоўская (акрамя дамоў № 8, 12, 14, 19а);

Лібава-Роменская (акрамя дамоў №№ 51, 47, 45, 49);

17-га Верасня (дамы № 1, 3, 5);

Таўлая;

Сярэдніх школах №№ 1, 4, 6, 8, 9, 10, 11, 12, 14, "Гімназія-каледж мастацтваў";

у лазнях №№ 1, 3, 4;

Пазаведамаснай ахове;

у "Аграпрамбанку".

**Ад 2 па 15 чэрвеня** будуць праводзіцца работы ў зоне міні-ТЭЦ.

У гэты перыяд будзе адсутнічаць гарачая вада па вуліцах:

Вялікі Гасцінец, усе дамы з № 64 (па цотным баку) і з № 81 (па няцотным баку) уключна ў бок ЗМК;

Раёны Здземелева, Гелянова;

Вуліцы Б. Хмяльніцкага, дамы №№ 42, 44, 46, 48, 5, 7, 9, 3, 3а, 3б, 3в);

Талстога, дамы №№ 1, 3, 3а, 5, 10, 12, 8, 2;

Віленская, дамы №№ 1, 3, 5, 7, 9, 2, 4, 6, 8, 10;

Валынца, дамы № №7, 9, 10;

Прытыцкага, дамы № 6,1 0, 12, 13, 14, 16, 18;

Дзіцячыя садкі №№ 6, 26, 15, 4, 17, 12, 27, 9, 16; КДБ;

Грамадоўская, дамы № № 12, 14, 19а;

Буйніцкага;

Лібава-Роменская, дамы № 51, 47, 45, 49;

Лебедзеўская;

Таміліна;

Галіцкага;

Бухаўшчына, дом № 64;

Лазня № 2;

Сярэднія школы №№ 2, 7.

У выпадку паспяховых выпрабаванняў трубаправодаў цеплавых сетак і адсутнасці дэфектаў, якія патрабуюць выкanання незапланаваных рамонтна-аднаўленчых работ, адключэнне гарачага водазабеспячэння не будзе перавышаць 14 сутак.

**Аддзел інфармацыі.**

| Курсы валют НБ РБ | 24.04 руб. | 1.05 руб. |
|---|---|---|
| **Долар ЗША** | 9 970,00 | **9 980,00** |
| **Еўра** | 13 770,00 | **13 840,00** |
| **Злоты** | 3 293,96 | **3 287,22** |
| **Літ** | 3 998,64 | **4 010,21** |
| **Расійскі рубель** | 279,50 | **277,00** |
| **Грыўня** | 857,63 | **864,07** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 28.04** | | |
| **Долар ЗША** | 9960 /10010 | **9980/10030** |
| **Еўра** | 13760/13850 | **13800/13890** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| **ПРАДУКТЫ** | 23.04 | 30.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 56600 | **56900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26800 | **26800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 79000 | **79000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29000 | **29500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 33500 | **34000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9800 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9000 | **9000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей "Кум"** | 14500 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5300 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **8500** |
| **Капуста**, 1 кг | 12000 | **14000** |
| **Морква**, 1 кг | 12000 | **7500** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 17000 | **2600** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 12500 | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 21900 | **21500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 21900 | **22900** |
| **Агуркі**, 1 кг | 22500 | **24500** |
| **Перац**, 1 кг | 39000 | **36900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 45000 | **39500** |
| **Бананы**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9900 | **8900** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 16500 | **23900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 25000 | **25000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Аматар падпальваць з Жупранаў

## Пяць падпалаў за тыдзень

Фота stockbyphotos.com

За падпалы нерухомасці, жыхару з Жупран прыйдзецца заплаціць 14 млн. руб.

**АШМЯНЫ. 26-гадовы мясцовы жыхар выпіваў са знаёмымі, выходзіў перакурыць, а калі вяртаўся, то казаў, што нешта гарыць у суседзяў. Маладзёна западозрылі толькі пасля пятага падпалу.**

Суд па гэтай справе адбыўся 8 красавіка.

Вечарам 19 кастрычніка жыхар Жупранаў Андрэй быў нападпітку. Прыйшоў у госці да знаёмага Васіля, з якім разам выпілі. Папрасіў у гаспадара запалкі і выйшаў пакурыць. Ён наўмысна падпаліў сена, якое было ў драўлянай павеці. Праз некалькі хвілін ён зайшоў у дом і сказаў, што на двары гарыць павець.

Ён жа праз некалькі гадзін, а палове пятай раніцы, падпаліў сена, якое было на гарышчы гаспадарчай пабудовы. Гэтая пабудова належала жыхарцы Жупранаў Генавефе і месцілася каля дома. Унутры былі куры, збожжа, мука. У тую раніцу гаспадыня прачнулася ад рэзкага трэску. Падбег сусед і сказаў, што ўжо выклікаў пажарных.

Праз шэсць дзён вечарам, 26 кастрычніка, ён зноў выпіваў ў Васіля. Андрэй папрасіў запалкі і выйшаў пакурыць. Пайшоў да аднаго з дамоў на вуліцы Піянерскай. Локцем разбіў адно з вокнаў і падпаліў цюль. Вярнуўся да Васіля праз хвілін 15-20 і сказаў, што непадалёк нешта свеціцца, ці то свечкі, ці то пажар. Аднак агонь не перакінуўся з цюлі на дом, таму згарэлі толькі фіранкі. Кампанія падышла да таго дома, але хутка вярнулася: нічога не гарэла.

Праз дзве гадзіны Андрэй зноў папрасіў запалкі і выйшаў пакурыць. Пайшоў да аднаго з дамоў па вуліцы Багушэвіча. Дзверы ў адной з гаспадарчых пабудоў былі незамкнёныя, таму Андрэй зайшоў усярэдзіну і падпаліў руберойд.

**Пасля зайшоў у незамкнёны дом. Спачатку падпаліў пластыкавую бутэльку ў адным пакоі. У другім падпаліў шматкі шпалераў на сцэнцы. Тут агонь узяўся і ў выніку згарэў увесь дом.**

Калі Андрэй вярнуўся ў кампанію, то сказаў, што гарыць дом па Багушэвіча.

Праз некалькі гадзін, у тры ночы, ён падпаліў яшчэ і гаспадарчую пабудову па вуліцы Маладзёжнай. Гаспадару пагрукаў у акно сусед, які сказаў, што гарыць павець. Гаспадар выбег на двор, але ўсё ж згарэлі і сена, і павець. Аказалася, што за 15 хвілін да ўзгарання Андрэй зноў выйшаў з кампаніі.

Тут яго і западозрылі ахвяры першага падпалу.

Паводле высновы судовай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, на піраманію абвінавачаны не пакутуе.

**На судзе Андрэй прызнаў сваю віну цалкам, але адмовіўся даваць паказанні. Маладзён патлумачыў, што не хоча гаварыць на гэтую тэму.**

Суд прызнаў Андрэя вінаватым і прызначыў яму пакаранне – чатыры гады выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён таксама мусіць выплаціць шкоду пацярпелым, агулам амаль 14 мільёнаў рублёў.

Асуджанаму Андрэю 26 год. Жыве ў Жупранах. Не працуе, раней не судзімы.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ, старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

● ПРЫСУД

# Гвалтаўніку прысудзілі да 11 год пазбаўленні волі

**ВІЛЕЙКА. 32-гадовага жыхара Вілейшчыны асудзілі за два злачынствы на сексуальнай глебе ў Вілейцы.**

Першае з іх адбылося ў студзені 2009 года. Тады ў падвале дома, што будаваўся на вуліцы Незалежнасці, ён згвалціў віляйчанку.

Другое здзейсніў раніцай 28 ліпеня мінулага года. У лесе ля прыпыначнага пункта "Зеніт" ён учыніў дзеянні сексуальнага характару да непаўналетняй дзяўчыны. У гэтым выпадку яго адшукалі праз некалькі дзён.

– Гэта ўдалося дзякуючы аналітычнай працы аператыўнікаў. Яны выбіралі асоб, якія падыходзілі па апісанні пацярпелай, жылі побач з месцам здарэння, – расказвае намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка.** – У выніку ўстанавілі каля дзесятка мужчын, якія маглі быць падазронымі ў гэтым злачынстве. Сярод іх апынуўся і гвалтаўнік. У яго ўзялі адпаведныя біялагічныя ўзоры. Ён прызнаўся ў гэтым злачынстве, і ў тым, што было здзейснена ў 2009 годзе. Таксама дапамагло раскрыць злачынства тэхнічнае пераабсталяванне экспертнай службы. Гэта дапамагае назапашваць звесткі пра асоб, якія пакінулі на месцы злачынства свае сляды. Абодва злачынствы мужчына здзейсніў з прымяненнем фізічнай сілы.

Суд Вілейскага раёна па першым выпадку – за згвалтаванне – асудзіў мужчыну да трох год і шасці месяцаў пазбаўлення волі.

Па другім выпадку атрымаў восем год пазбаўлення волі (на значна большы тэрмін паўплывала тое, што ўчыніў злачынства ў дычыненніда заведама непаўналетняй і што раней ужо здзейсніў згвалтаванне).

У выніку канчатковы прысуд – шляхам частковага складання пакаранняў – такі: 11 год пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

– Мужчына абскарджваў прысуд. Аднак Мінскі абласны суд заставіў яго без змянення, і прысуд уступіў у законную сілу, – адзначыў Віктар Гатоўка.

**Аддзел інфармацыі.**

● ВЫШУК

## Шукаюць відавочцаў аварыі, у якой збілі жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося раніцай 1 красавіка.

Маладзечанскі раённы аддзел СК шукае сведак і відавочцаў аварыі, якая здарылася 1 красавіка каля 8 гадзін раніцы.

Аўтамабіль "Hyundai Sonata" (кузаў седан серабрыстага колеру, на транзітных нумарах) рухаўся па вуліцы Буйло ў бок Хмяльніцкага і наехаў на жанчыну.

Яна атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просьба да відавочцаў патэлефанаваць па нумары **77-04-69** ад 9.00 па 18.00 (панядзелак–пятніца) следчаму **Віктару Вікенцьевічу Зяневічу**.

## Шукаюць таго, хто падкінуў немаўля

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі аддзел следчага камітэта аб'явіў вышук. Шукаюць маці дзіцяці, а таксама таго, хто яго падкінуў да дзвярэй кватэры ў Алёхнавічах.

Выпадак адбыўся ў ноч з 22 на 23 сакавіка. У шэсць гадзін раніцы ў шматкватэрным доме на Маладзёжнай знайшлі пакінутага хлопчыка.

Яму не было яшчэ і двух сутак. Спавітае дзіця ляжала на куртцы і пакрывале.

Просьба да тых, хто штосьці ведае па гэтым здарэнні, тэлефанаваць у Маладзечанскі РАСК па нумарах: **58-07-73** ад 9 гадзін раніцы да 18 гадзін (панядзелак-пятніца).

**Аддзел інфармацыі.**

● ДАРОГА

# ДАІ злавіла 60 парушальнікаў ПДР

**ВІЛЕЙКА. ДАІ Мінскай вобласці ад 17 да 20 красавіка правяла прафілактычную акцыю "Хуткасць".**

Падчас рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі ДАІ праводзілі ўзмоцнены нагляд за дарожным рухам са схаваным кантролем і фотафіксацыяй парушэнняў.

Падчас акцыі ў Вілейскім раёне зафіксавалі 60 парушэнняў ПДР, у тым ліку 35 парушэнняў хуткаснага рэжыму.

### Жудасная аварыя з-за хуткасці

16 лютага ў Вілейскім раёне пры сутыкненні аўтамабіляў "Фольксваген-Бора" і "Опель-Зафіра" чатыры чалавекі загінулі, сярод іх малалетняе дзіця. Кіроўца і пасажыр "Опеля", а таксама дзяўчынка, якая знаходзілася ў "Фольксвагене", былі дастаўленыя ў рэанімацыю.

Адной з прычын гэтага ДТЗ стаў няправільны выбар хуткасці кіроўцам "Фольксвагена" пры неспрыяльным надвор'і.

### Анёл-ахоўнік не дагоніць машыну

Часта кіроўцы прыгаворваюць, што не трэба ездзіць хутчэй, як лётае твой анёлак.

Як бы не хацелася людзі, ездзіць значна хутчэй, чым патрабуюць знакі дарожнага руху, не трэба забывацца, што яны прадугледжаныя для бяспекі.

З надыходам вясны ў супрацоўнікаў ДАІ значна дадалося працы. Гэта тлумачыць начальнік ДАІ Вілейскага РАУС **Аляксей Альфер**:

– На дарогах павялічылася нават колькасць кіроўцаў, бо, напрыклад, тыя, хто зусім нядаўна атрымаў правы, пабойваюцца выязджаць на дарогу зімой. А вось вясной, калі сыходзіць снег, з ахвотай садзяцца за руль свайго новага жалезнага сябра. І ад маленькага досведу і вялікай упэўненасці ў сваёй моцы не заўсёды правільна выбіраюць хуткасць. Нават калі па горадзе трэба ехаць 60 км/г, важна памятаць, што вадзіцель павінен выбіраць бяспечную хуткасць: для пачынаючага кіроўцы гэта можа быць і 40-50 км/г, хоць знакі дарожнага руху будуць паказваць большую лічбу.

Аналіз аварыйнасці на тэрыторыі Мінскай вобласці паказаў, што перавышэнне хуткасці альбо няправільны яе выбар часта прыводзяць удзельнікаў дарожнага руху да ДТЗ.

Сёлета ў Мінскай вобласці адбылося 207 ДТЗ, у якіх 43 чалавека загінулі і 233 – атрымалі траўмы і калецтвы. З іх з-за перавышэння хуткаснага рэжыму адбылося 36 ДТЗ, у якіх 10 чалавек загінулі і 48 – траўмаваныя.

**У Вілейскім раёне з пачатку года зарэгістравана 6 ДТЗ, у якіх 4 чалавекі загінулі і 13 атрымалі траўмы.**

### Паўтара мільёна за перавышэнне

Супрацоўнікі ДАІ нагадваюць, што за перавышэнне хуткасці ад 10 да 20 км/г штраф – 150 тысяч рублёў, ад 20 да 30 км/г – да 400 тысяч, звыш 30 км/г – да 1 500 000. А калі кіроўца цягам года паўторна парушыць правілы, яго чакае пазбаўленне правоў тэрмінам да года.

Начальнік ДАІ Вілейскага РАУС Аляксей Альфер заклікае ўсіх удзельнікаў дарожнага руху выконваць правілы і рэкамендацыі і з павагай ставіцца адзін да аднаго.

**Анастасія ЛЕАНОВІЧ, Вілейка.**

**ДА 75-ГОДДЗЯ МІЛІЦЫІ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ**

# За 75 год выраслі дынастыі міліцыянераў

**МАЛАДЗЕЧНА. Скварцовы, Кабушы, Дзмітрыевы – сем'і, справай жыцця якіх стала барацьба са злачыннасцю.**

З нагоды юбілею міліцыі Мінскай вобласці прыгадваем гісторыю з'яўлення Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў, некаторых асоб, сямейных дынастый.

### Сям'я Скварцовых

Вось ужо сапраўды пераемнасць пакаленняў. **Лот Скварцоў** нарадзіўся ў 1923 годзе. Ветэран аддзела ўнутраных спраў, падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы. Апошняя пасада – намеснік начальніка па аператыўнай працы Стаўбцоўскага раённага аддзела ўнутраных спраў.

Падтрымаў прафесійныя традыцыі бацькі яго сын **Яўген**, які нарадзіўся ў 1948 годзе. Палкоўнік міліцыі ў адстаўцы. Начальнік Маладзечанскага гарраяддзела ўнутраных спраў ад снежня 1995 па верасень 2000 года.

Сямейная дынастыя была прадоўжана ўнучкай і ўнукам Лота Георгіевіча. Яны да гэтага часу працуюць у органах унутраных спраў. **Ірына Скварцова** – капітан міліцыі, працуе інспектарам аддзялення па грамадзянстве і міграцыі Маладзечанскага РАУС.

Брат Ірыны **Руслан** у званні маёра міліцыі служыць старшым інспектарам дарожна-патрульнай службы аддзела дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага РАУС.

### Сям'я Кабушавых

Пайшоў па слядах бацькі і **Сяргей Кабушаў**.

**Валеры Кабушаў** нарадзіўся ў 1946 годзе. Жыццё прысвяціў службе ў міліцыі. Апошняя пасада – начальнік Чысцінскага аддзялення міліцыі Маладзечанскага ГРАУС . Цяпер – падпалкоўнік у адстаўцы.

Яго сын, Сяргей Кабушаў, 39-гадовы капітан міліцыі. Працаваў оперупаўнаважаным аддзела крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі Маладзечанскага РАУС. У званні маёра міліцыі пайшоў на пенсію.

### Сям'я Дзмітрыевых

З міліцэйскай дынастыі паходзіць **Віталь Дзмітрыеў**. Яго бацька, **Аляксей Нічыпаравіч**, пасля заканчэння сярэдняй школы і Вышэйшай школы міліцыі працаваў на Рагачоўшчыне ўчастковым інспектарам, супрацоўнікам аддзела барацьбы з крадзяжамі сацыялістычнай уласнасці, следчым.

Вышэйшая школа МУС СССР у Мінску, Акадэмія Упраўлення МУС Расійскай Федэрацыі – магчыма, у гэтых навучальных установах выпрацоўвалася жыццёвае крэда Віталя Дзмітрыева: міліцэйская служба чым цяжэй, тым цікавей.

Маладзечанскую міліцыю Віталь Дзмітрыеў узначальваў ад 2003 па 2006 год. Цяпер узначальвае Навучальны цэнтр Дэпартамента аховы МУС Беларусі.

Яшчэ адзін выхадзец з Маладзечанскага РАУС **Анатоль Габруковіч**.

Жыццёвы прынцып, якім ён кіруецца ў сваёй працы: "Каб дайсці да мэты, трэба перш за ўсё ісці".

Праца ў Маладзечне не стала завяршэннем яго прафесійнага росту. 25 жніўня 2005 года Анатоль Сяргеевіч заняў пасаду начальніка Смалявіцкага РАУС, а ў верасні 2006 года – пасаду начальніка Барысаўскага ГАУС. Ужо на пенсіі.

### Як з'явілася міліцыя

Гісторыя аддзела пачынаецца Загадам Народнага камісара ўнутраных спраў БССР за 1939 "Аб назвах і дыслакацыі органаў НКУС у заходніх абласцях Беларусі". Згодна з гэтым дакументам, Маладзечанскі павятовы аддзел Народнага камісарыята ўнутраных спраў з цэнтрам у горадзе Маладзечна ўключылі ў склад Упраўлення НКУС па Вілейскай вобласці.

Акрамя Маладзечанскага аддзела, у яго ўвайшлі Ашмянскі, Свянцянскі, Браслаўскі, Дзіснянскі і Пастаўскі аддзелы.

У 1948 годзе ў сувязі са з'яўленнем Маладзечанскай вобласці стварылі і Маладзечанскае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў, якое існавала да 1960 года.

У 1960 годзе праз скасаванне Маладзечанскай вобласці абласное УУС ліквідавалі. І стварылі Маладзечанскі гарраяддзел унутраных спраў.

Пасля аб'яднання горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна ў адну адміністрацыйную адзінку, у 2005 годзе аддзел унутраных спраў Маладзечанскага гаррайвыканкама перайменавалі ў аддзел унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.

**Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў.**



Фота забяспечана Уладзімірам ВАСІЛЬКОВЫМ.

**Падмацоўваюцца падчас высадкі дубовай алеі ў маладзечанскім парку да 75-годдзя міліцыі вобласці. Злева направа: супрацоўнік УУС Уладзімір Туронак, начальнік аддзела камплектавання УУС Сяргей Капко, намеснік начальніка маладзечанскага РАУС Уладзімір Васількоў.**

### Кіраўнікі Маладзечанскай міліцыі

1960 – 1963 гг. – Пётр Увараў
1963 – 1970 гг. – Уладзімір Фісун
1970 – 1973 гг. – Якаў Асановіч
1973 – 1983 гг. – Васіль Савіцкі
1983 – 1993 гг. – Уладзімір Сіман
1993 – 1995 гг. – Уладзімір Станкевіч
1995 – 2000 гг. – Яўген Скварцоў
2000 – 2002 гг. – Сяргей Кухарчык
2002 – 2003 гг. – Віктар Марозаў
2003 – 2006 гг. – Віталь Дзмітрыеў
2006 – 2007 гг. – Адам Крывальцэвіч
2008 – 2013 гг. – Юры Федарэнка
2013 – па цяперашні час – Валянцін Асіповіч

МЕРКАВАННЕ

# Каб у кавярні скарыстацца прыбіральняй, трэба праявіць дзівосы эквілібрыстыкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У адной з маладзечанскіх кавярняў створаныя ўсе ўмовы, каб зноў вярнуцца ў СССР. Відаць, кафэ і працуе для тых, хто сумуе па пралетарскіх паводзінах афіцыянтак і макароне, якая зліплася.**

Гэта кавярня амаль заўсёды зачыненая на спецабслугоўванне. Я сабе на хвілінку ўявіла тых няшчасных, хто запрасіў сюды бабулю з Барнаула і дзядзьку Пецю з Варкуты, каб адсвяткаваць вяселле. Але гэта лірыка. Магчыма, банкеты тут праводзяць на ўзроўні. Не была, не ведаю.

Мне толькі аднойчы "пашчасціла" тут паабедаць, і я ўпэўненая, што гэта быў першы і апошні раз.

Комплексны абед каштуе тут крыху болей за 30 тысяч. Заплаціла за яго за высокай стойкай адразу, як зрабіла заказ. У комплексны абед ўваходзяць суп, салата, курынае філе, макарона і кампот з яблык.

Афіцыянтка паклала прыборы наўпрост на абрус. Пры гэтым выраз яе твару быў каменны. Калі прынеслі хлеб, і я падцягнула яго бліжэй да сябе, тая ж афіцыянтка з суровым выглядам твару цвёрда сказала: "Гэта не ваша". Цудоўна, у мяне за столікам, аказваецца, будуць суседзі.

Пра суп і філе з курыцы дрэннага гаварыць не буду, было смачна. Але гарнір... Макарона дзяцінства! Памятаю, калісьці ў школьнай сталовай былі такія ж: усе ў тлушчы, слізкія, шэрыя, халодныя і клейкія. Мы з імі адзін аднаго не зразумелі, мне нават непрыемна было на іх глядзець, не тое, што есці.

Заставалася запіць усё кампотам. Я прыгожа склала прыборы і ўсё глядзела на афіцыянтку, спадзеючыся на тое, што яна заўважыць мяне і падыдзе.

Не заўважыла.

Вырашыла, пакуль схаджу ў прыбіральню, персанал заўважыць, што за сталом нікога няма і за гэты час прыбярэ стол і прынясе кампот.

Дзверы ў прыбіральню ў гэтай дзіва-кавярні размешчаныя паміж двума столікамі, за якімі ядуць людзі. Прыемнага апетыту, таварышы.

Мала таго, што дзверы не проста не зачыняюцца на зашчэпку, яны не зачыняюцца ўвогуле. І, прашу прабачэння ў чытачоў за падрабязнасці, каб скарыстацца прыбіральняй па прызначэнні, трэба праявіць дзівосы эквілібрыстыкі: дзверы ўпіраюцца ў самы ўнітаз.

Ля рукамыйніка вісіць кантэйнер для вадкага мыла, на якім скотчам прыклееная паперка, на якой напісана "БОДИСОФТ". Як я, беларуска, павінна здагадацца, што там унутры?

Выходжу з прыбіральні. Мая макарона, як і пустыя брудныя талеркі, так і стаіць на стале. Кампоту я не дачакалася. Хаця, прызнацца, піць не вельмі і хацелася.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Кантэйнер для вадкага мыла, на якім скотчам прыклееная паперка з надпісам "БОДИСОФТ".**

 





У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Нарачы бераг шырокі



25 жніўня 1229 года віленская штодзённая газета «Słowo» апублікавала спецыяльны выпуск, прысвечаны "польскаму мору", як казалі тады, а менавіта возеру Нарач. Факсіміле першай старонкі гэтага выдання сёння мы размясцілі на нашай шостай старонцы. Тры з шасці старонак тры аддадзеныя пад нарачанскую тэматыку. Пра гэты выпуск у сваім лісце ў "Рэгіянальную газету" паведаміў наш пастаянны чытач і аўтар з Купы Міхась Чарняўскі. Сёння я перакажу рэпартаж аб паездцы віленскіх газетчыкаў на Нарач. Публікацыя пад загалоўкам "Нарачы бераг шырокі" падпісана крыптонімам "m." Хутчэй за ўсё гэта галоўны рэдактар Станіслаў Мацкевіч. Падарожжа аўтара і яго сяброў адбывалася на амерыканскім аўтамабілі "Essex". Дарэчы, у гэтым жа нумары ёсць рэклама аўто "Essex-6". У адным з наступных нумароў "РГ", гартаючы старонкі газеты «Słowo», я працягну нарачанскую тэму. Вы знойдзеце адказ, на якую рыбу была багатая Нарач у 1929 годзе. А пакуль учытаемся ў пажоўклыя ад часу старонкі...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

[…] няма патрэбы адмаўляць прыгажосці, на якія багатыя некаторыя ўзбярэжжы: заходнія берагі Каўказа, якія спадаюць ў глыбіні Чорнага мора, нарвежскія фіёрды, скалы Рыўеры або пляжы Біярыц ці тысяча і адзін марскі курорт у свеце. Вернемся аднак ва ўласную віленскую кватэру, у якую завітаў адпачынак, паўсюль стаяць спакаваныя чамаданы, а з камізэлькі вытыркаецца білет Польскай чыгункі. Ах! Паветра, сонца і прыгожыя пейзажы! Дзе насамрэч ляжыць зямля запаветная адпускнікоў?

Некалі ў нашай краіне ездзілі у Друскенікі, Біршаны і Палангу на мора. Не былі гэта напраўду летнікі нашай мары, але і з тых мясцовасцяў дзве адрэзаў ад нас ковенскі ўрад. Ездзім цяпер у Крыніцу, Буск, Цехацінэк і Карпаты і аднаму богу вядома ў якія яшчэ летнікі, на якія пляжы і курорты. А хіба найчасцей – дарогай да васьмісот з гакам кіламетраў да польскага мора ў Гдыню, Пуцк і Гель. Цяпер у Польшчы што ні крыніца, то Крыніца, што ні лясок, то летнік.

[…] А многія з нас, віленчукоў, збіўшыся з дарогі, едуць туды не толькі каб адпачыць, а так... бо не ведаюць куды на лета выехаць, калі ў той самы час тут пад бокам...

– Так-так, – пераб'е мяне з усмешкай іншы, – ведаем, чулі, што ў нас у краіне найпрыгажэй і найлепей...

– І гэта праўда, што берагі Віліі могуць паспрачацца з берагамі Прадніка (прыгожая рэчка ў Польшчы, прыток Віслы – А.М.), а крявіды, пакрытыя лесам, не горшыя за Свентакрыжскія горы, а гаючая свежасць нашых лясоў мае больш жыватворнага паветра, чым любое патэнтаванае месца аздараўлення.

**Але мы маем нешта надзвычайнае, штосьці такое, што можа параўнацца са шматлікімі слаўнымі еўрапейскімі курортамі. І яно яшчэ выйдзе з гэтага параўнання пераможцам! Мы маем кріну Вялікіх Азёр, настолькі прыгожых, што на Захадзе іх даўно б перарабілі на славуты курорт.**

Што мы ў Вільні ведаем пра Нарач?.. Што туды паехаў ваявода на асвячэнне першага каменя ў падмурку, а цяпер паедзе на адкрыццё прытулку?.. Што там прайшло некалкі аўтапрабегаў, у час якіх чацвёра паноў глядзяць у матор, а толькі пяты на краявід?.. Гэта таксама штосьці, але без перабольшвання, панове – гэта ўсё. Але гэтага мала. Ёсць у Вільні людзі, якія кажуць: чулі, але не бачылі. Або: хачу пабачыць. І дзеля справядлівасці трэба пагадзіцца, што гэта не настолькі простая рэч. Амаль усе дарогі ў нас вядуць з Вільні на поўдзень. Належыць прызнаць, што ў Познань лацвей і выгодней ехаць, чым у Кабыльнік – бітай некалі дарогай Баторыя, спрадвечным Полацкім трактам.

***

Але мы паехалі! Па гліне і пяску, аб'ездамі і драўлянымі нямецкімі дарогамі нёс нас "Essex" праз Міцкуны і Лаварышкі, Слабодку, Міхалішкі... Стоп! Трэба пабачыць кавалак прыгожага краю і хутчэй да Вялікіх Азёраў.

**Толькі збочыш ад Міхалішак управа ад тракту, удоўж кавалка Віліі і адразу быццам чалавек на чатырох колах заехаў у самае сэрца Віленскай Зямлі.**

Вось відзён касцёл у Нястанішках, а тут Дабраўляны, адкуль выйшла Габрыеля з Гюнтэраў Пузыня, аўтарка ўспамінаў "У Вільні і літоўскіх дварах". З яе слоў ведаем, што тут рабілася сто гадоў таму.

Сто гадоў! І ад прыхожага палаца засталіся пустыя вочы вокнаў і коміны, што тырчаць у неба... Навокал пустэча і руіны: ад імя акруговага земскага праўлення нейкі яўрэй трымае гэтае гняздо ў арэндзе!!! Так, калі хто не верыць, няхай спытаецца. Мае на гэта дазвол, дакумент, паперу, ходзіць па клумбе, трава з якой ужо даўно карані на ўяздную дарогу пусціла. Шпацыруе па парку, дзе калісьці стаялі прыгожыя альтанкі, а сёння – руіна. Яго не хвалюе, што тут было сто гадоў таму...

Газу адсюль, пане вадзіцель! Ад гэтай магілы, ад гэтага экспанату – газу! І праз гэты паламаны масток, і ўсё адно, праз гэтую разбітую грэблю, і тую, яшчэ не пабеленую вёску, каб гарачая кроў, што нам сэрцы залівае, не пашкодзіла б карбюратара. Газу! Хоць нам кажуць: "Туды паночак не праедзеш на аўтамабілю" (цытата у газеце даецца па-беларуску – А.М.) І пераможг наш "Essex" гэтую гіблую дарогу і выскачыў, хоць і спацелы, аж на бераг возера Свір.

Фота Аляксандра ДЗЕРГАЧА

Возера Нарач. Фота 30-х гадоў мінулага стагоддзя зробленае жыхаром Кабыльніка Аляксандрам Дзергачом.





 

 



***

Як вокам кінуць – краіна азёраў і лясоў. У жнівеньскім сонцы зрок кідаецца далёка, аж на супрацьлеглы бераг Свіры, які ў выглядзе булавы, доўгі, цёмны, патанае ў кароткіх усплёсках вады. Уздоўж гэтага берага ідзе тракт з Вішнева да мястэчка Свір, як найпрыгажэйшы бульвар, які трэцца аб аер, над самюткай вадой.

Каля берага сохнуць кіламетровыя рыбацкія сеткі, а барадатыя рыбакі з мясцовых бурлакоў недаверліва глядзяць на рэдкіх ў гэтай мясцовасці гасцей. Дарогі тут зноў не такія благія. Хутчэй, можна сказаць, запушчаныя, чым дрэнныя ад прыроды. Насупраць – яны дружалюбныя і для рэсор і для самога аўтамабіля. На Свір таксама, збочваючы крыху з тракта, ходзяць аўтобусы з Вільні да Кабыльніка. Такі-сякі пачатак камунікацыі тут ёсць, але менавіта ў эмбрыянальным значэнні гэтага слова.



Фота Аляксандра ДЗЕРГАЧА

Возера Нарач. Фота 30-х гадоў мінулага стагоддзя зробленае жыхаром Кабыльніка Аляксандрам Дзергачом.

**Праімчаліся праз прыгожае мястэчка, а далей пацягнуліся вёскі, якія ўрaслі ў зямлю, шэрыя, бедныя, якія яшчэ маюць свойскі выгляд, дзе-нідзе толькі збольшага нязграбна пабеленыя. Нясмачна нeяк гэтая бель выглядае, не стасуецца да халуп і сапраўднай беднасці, дзе яна існуе напраўду, не прыкрывае беднасці, а робіць яе яшчэ больш выразнай.**

Зноў Полацкі тракт. Як хутка забыліся найпрыгажэйшыя берагі Віліі, так і ўражанне ад Свіры сцірае дарогай, што патанае ў зеляніне. Раз-пораз нахіляешся, паказваеш пальцам і хапаеш за рукаў спадарожніка: "Ах, паглядзі! Ну паглядзі туды! Ах і вох!"

Раптам робіцца крыўдна, што не хапае слоў, і што гучыць у вушах самае банальнае, тады засунецца чалавек ў самы куток сядзенняў і ўжо толькі глядзіць, глядзіць і глядзіць...

Яшчэ для нас, дзякуй богу, крыху засталося лясоў! То высакарослы сасонны, то быццам у зялёнай гарлавіне едзем і цёмна становіцца ад лістоты, то зноў лес мяшаны, жывы, вясёлы, то ператвараецца ялінамі або становіцца фіялетавым ад верасоў. Калі сонца прабіваецца скрозь голле і лісце, то хвоі адкідаюць найдзіўнейшыя арнаменты на дарогу, выкладаючы блытаныя карункі з ценю.

Гасподзь найдаражэйшы! Ці ёсць яшчэ дзе ў Польшчы такія дарогі? Ці магу я асмеліцца параўнаць гэтую з якой іншай? Га?

Так едзем з Вільні да Нарачы.

А што гэта за абрыдлівая дошка прыбітая пры самай дарозе: "Турыст, спыніся! Возера Швакшты". Так там напісана. І слушна, гэта трэба убачыць. Усё возера ў лесе. Узгоркі з боку дарогі. Як вокам кінуць: лес і вада. Возера нібыта з байкі.

***

Само мястэчка Кабыльнік, якое ляжыць на галоўнай камунікацыйнай артэрыі на Полацкім тракце, уяўляецца сапраўднай сталіцай гэтага закутка, які назвалі імем Вялікія Азёры. Свір трохі аддаленая ад дарогі, хоць у сто разоў прыгажэй размешчаная, мястэчкі ж Стары і Новы Мядзел размешчаныя з іншага ад Вільні боку. Насамрэч гэта прыгожыя прасторы, выключныя з пункту погляду прыгажосці краявідаў так і з яго спецыфічнага характару: азёры Свір і Вішнеўскае, Вялікая Швакшта, Мядзел, Мястра і найбуйнейшае, якое займае 8 тысяч з гакам дзесяцін – Нарач, царыца літоўскіх азёр! Тут жывуць людзі, якія ў значнай ступені чэрпаюць сродкі на існаванне з рыбалоўства. Краіна вады і лясоў.

Сам Кабыльнік – звычайнае мястэчка, тыповасць якога не замажа нават белая мазня мясцовай дошкі аб'яў. Тут у час сусветнай вайны праходзіў жалезабетонны фронт расійска-нямецкіх акопаў, палі дроту-калючкі, горы трупаў, варонкі ад снарадаў, могілкі... hier liegt der Helden tot gefallen... (тут пакоіцца мёртвыя Героі... – ням., А.М.) сёння амаль следу ад таго не засталося. Толькі ў самой Нарачы рыжы ад іржы, скручаны, ляжыць на жоўтым пяску калючы дрот, дзе-нідзе яшчэ напалову відзён след акопу, а ў самім Кабыльніку прыгожы помнік палеглым тут нямецкім салдатам. Засталася таксама іншая памяць – гэта каляіны пабудаванай немцамі чыгункі з Лынтуп да Кабыльніка. Яна сёння працуе і з'яўляецца адной з дзвюх, менш зручнай, камунікацыйнай артэрыяй паміж Кабыльнікам і Вільняй. Сёння ўсё жывое грузіцца ў "Brokway", аўтобусы, якія курсуюць па тракце. Гэта цяжкая дарога, часта ў духаце, пыле і цясноцці. Шашу! Няма шашы да Кабыльніка, а адтуль яшчэ пару кіламетраў да возера Нарач.

Вось каб нам тут шашу пабудавалі, альбо іншую якую людскую камунікацыю прыдумаць: ідылія, месца для купання, летнік мараў, месца для воднага спорту, турызму.

З Кабыльніка, ад'ехаўшы няпоўных тры кіламетры, праз пару хвілін наш "Essex" упёрся фарамі ў неабсяжны абшар вод Нарачы, як бы здзіўлены паглядзеў, замоўк і заглушыў рухавік. А высокае сонца прыпякала, на зямлі і на вадзе стаяла цішыня, толькі белыя чароды чаек, сапраўдных марскіх чаек, з крыкам узнімаліся ў паветра. Пляж, пясок. Пясок пульхненькі, чысцюткі, злёгку зморшчаны на дне вадой. Вада цёплая, мяккая, прыемная.

**Цішыня навокал, ані чалавека на гарызонце не ўбачыш. Ідзеш у глыб вады паўкіламетра, больш, пакуль не стане па пояс. Можна сесці ў пясок як у ванне, выйсці на бераг, глядзець і абсыхаць на сонцы. Пасля зноў у галаву прыходзяць думкі, штораз больш бунтарскія...**

Без пафасу, панове і прыгожыя пані ў купальных касцюмах! Не можна параўнаць гэтай пекнай краіны з шэрым, змрочным, пацёртым, як стары плашч, кашубскім лугам, куды вы з году ў год ездзіце на пляж з заўжды халодным ветрам, на не заўсёды чыстую Пуцкую Затоку. Тут у сто разоў мілей!

Як уздымецца вецер, то хваля ідзе вялікая, як на моры, а супрацьлеглага берага так ці інакш не відно. Гэтыя стромкія ці не да неба сосны на беразе, гэтыя лясы – гэта вам не карлікавая сасонка на пяшчаных дзюнах Гелю. І пры гэтым гэта сваё, наша, блізкае...

Ну што, віленчукі? Што вас там носіць па Крыніцах, Заляшчыках, Гдынях?

Але Нарачы і іншым прыгожым азёрам не хапае ўсяго таго, што павінна быць на курорце: няма як даехаць, няма чыгункі, няма шашы, няма дамоў адпачынку і ніцчаў, гатэляў, рэстаранаў, няма... Ах! Адным словам няма ініцыятывы і ахвоты, але такіх, што нешта б змаглі рабіць. Дык трэба рабіць!

На усходнім беразе пабудавалі прытулак, у вельмі маляўнічым месцы. А архітэктурны стыль? Так, натуральна і відавочна... закапанскі, рэгіянальны, бо "У Польшчы усе гэтакія дамы". Больш таго: "Калі збудавалі, няхай стаіць на здароўе" (апошнія цытаты ў газеце даюцца па-беларуску – А.М.). І гэта ўжо нешта. Пачатак ёсць. Прыехаць у прытулак можа кожны і напіцца чаю з незакапанскага самавару. А пасля, пасля глядзець як чырвонае сонца павольні хіліцца да вады. Там, дзесці вельмі далёка ад Купы, Сцепянёва ці Наносаў дасылае да нас па вадзе дванаццацікіламетровую хвалістую ружовую стужку, штораз больш чырвоную, аж пакуль яна не стане сіняй ў ахалоджанай вадзе і не згасне да наступнага дня.

Гэтае месца, дзе размешчаны прытулак, на ўсходнім канцы возера, найлепей бы падыходзіла для дома адпачынку. Будаўнічага матэрыялу дастаткова на месцы. Можна збудаваць шыкоўны, сучасны, стыльны комплекс, сапраўды свойскі, не пад Марское Вока, а пад свой родны пейзаж. Гэта б мела вялікі поспех і далёкія перспектывы на будучыню. Купальні! Тут бы і плавальны спорт мог бы цудоўна развівацца. Зімой – лыжы. Толькі трэба закатаць рукавы!

Тут жа каля Нарачы ляжыць, злучанае вузенькай рачулкай, возера Мястра, а над ім мястэчкі Стары і Новы Мядзел. А далей яшчэ на поўнач возера з такой самай назвай – Мядзел, са сваімі непараўнальнымі астраўкамі. Усё гэта спавітае і разнастайнае сярод зеляніны лясоў, садоў і сіняй вады.

З цяжкім сэрцам, нібыта залітым волавам, трэба пакідаць чароўную краіну, але вярнуцца сюды яшчэ, а пасля вяртацца кожны год, сістэматычна. І такое абяцае сабе ў душы кожны, хто хаця б раз там быў.

Збудуем там для сябе найлепшы курорт!

Не за морам гэта, не за гарамі, далёкімі рэкамі, лясамі, а побач, за ракой Віліяй, якая – рукой падаць, у самым цэнтры Віленскай Зямлі.

**т.**

**Пераклад з польскай, у скарачэнні.**




**Даведка "РГ". Газета "Słowo"** выдавалася ў Вільні ў 1922-1939 гадах. Кансерватыўны штодзённік. Галоўным рэдактарам быў Станіслаў Мацкевіч. *"Słowo"* мела таксама свае мясцовыя версіі: *"Kurier Nowogrydzki"* (Баранавічы), *"Kurier Słonimski"*, *"Kurier Grodzieński"*, *"Słowo Polesia"* (Пінск). У 1929 годзе газету можна было набыць у нашым рэгіёне у Івянцы у тытунёвай краме пана Звярынскага, у Маладзечне у краме "Рух", у Ашмянах у краме настаўніцкага кааператыву, у Вілейцы – на вуліцы Міцкевіча, 24, у пана Ф.Ючэўскага.

## ● КАЛЯНДАР

**2 мая.** У 1888 годзе нарадзіўся Іван Віткоўскі (126 год). Беларускі гісторык, прафесар. Аўтар прац па гісторыі нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху на Беларусі, паўстання 1863-1864 гадоў. У 1933 годзе арыштаваны. Пасля трох год зняволення яго вызвалілі. Зноў арыштавалі ў 1937 годзе і расстралялі. Рэабілітавалі ў 1959.

***

**3 мая.** У 1791 годзе Сойм Рэчы Паспалітай зацвердзіў першую ў Еўропе і другую ў свеце Канстытуцыю (223 гады таму). Новы закон каратаваў сістэму дзяржаўнага кіраваньня, сацыяльнае размежаванне ў краіне, кардынальныя правы шляхты. Рыцарства прызнавалі найвышэйшым саслоўем і абвілі гарантам Канстытуцыі. Пашырала правы гарадоў і мяшчанства. У цэлым дакумент садзейнічай ліквідацыі феадальнай анархіі.

***

**110 год** таму амерыканскі вынаходнік Джордж Паркер запатэнтаваў сваю першую пісьмовую ручку.

***

Сусветны дзень свабоды друку.

***

**4 мая.** У 2010 годзе ў беларускай арміі з'явіліся першыя жанчыны палкоўнікі – Ларыса Бабушкіна і Марына Перавёртава.

***

У **1838 годзе** дзеячы культуры выкупілі з прыгону ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнку (176 год таму).

***

**110 год** таму пачалі будаваць Панамскі канал.

***

**5 мая.** Міжнародны дзень барацьбы за правы інвалідаў.

***

**6 мая.** Юр'еў дзень.

***

У **1905 годзе** нарадзіўся Юрка Гаўрук, беларускі перакладчык, крытык, паэт і рэжысёр. Патрыярх беларускага нацыянальнага перакладу.

***

**8 мая.** У 1943 годзе здарылася трагедыя ў Налібоках. У выніку расправы над мясцовымі жыхарамі загінула 128 чалавек, у тым ліку тры жанчыны, некалькі падлеткаў і 10-гадовы хлопчык. Прычынай нападу стала супрацоўніцтва мясцовага насельніцтва з польскай Арміяй Краёвай.

***

У **1883 годзе** нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч (131 год таму). Беларускі мовазнаўца, грамадскі дзеяч, адзін з бацькоў-заснавальнікаў сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**



 

# “Браты-славяне”: “Для душэўнага спакою лепш жыць у Вілейцы”

**ВІЛЕЙКА. Набірае папулярнасць апошнім часам вілейскі дуэт “Браты-славяне”. Пабачыць выступленні Міхаіла Ермаковіча і Сяргея Скаражонка можна на беларускіх тэлеканалах (напрыклад, дуэт стаў фіналістам тэлешоу “Спяваючыя гарады”).**

Разам з экс-салістам “Песняроў” **Валерыем Скаражонкам** віляйчане ўдзельнічаюць у “Песні года” і змагаюцца за тытул “Лепшая беларускамоўная песня” на “Нацыянальнай музычнай прэміі”, выступаюць на “Славянскім базары”, гастралююць у Беларусі і Расіі.

У інтэрв'ю нашаму карэспандэнту **Сяргей і Міхаіл** расказалі, як з жартаў пра гадаванне кабаноў нарадзіўся дуэт, пасумавалі па тым часе, калі кожны другі юнак тромкаў на гітары ў парку, прыгадалі, як яны даказваюць у Расіі, што ў Беларусі бульба не звядзецца.



Фота забяспечана Міхаілам ЕРМАКОВІЧАМ і Сяргеем СКАРАЖОНКАМ.

Міхаіл Ермаковіч і Сяргей Скаражонак выступаюць на дабрачынным канцэрце ў Вілейцы.

## “Першы раз убачыліся і падумалі, што трэба ехаць граць вяселле”

**– Як вы пазнаёміліся?**

**Сяргей:** Мы знаёмыя з 1994 года, з 1996 разам працавалі ў ансамблі народнай музыкі “Весялінка” вілейскага Палаца культуры. Гэта такі рэдкі выпадак, калі знайшлі агульную мову два чалавекі з рознымі музычнымі поглядамі. Ён “народнік”, які любіў джаз-рок, я быў рокер. І атрымалася так, што мы пачалі ў аранжыроўках адзін аднаго дапаўняць. Спачатку спрабавалі сябе ў народнай музыцы. Нават у экспедыцыі пару разоў ездзілі па вёсках, збіралі матэрыял. Аранжыравалі, рабілі своеасаблівы фолк-рок.

**Міхаіл:** У народную музыку не паглыбляліся, бо яна патрабуе не толькі асаблівай увагі, але і адпаведнага стылю жыцця. Бралі апрацаваны рэпертуар і стылізавалі самі. Але ўплыў фальклору на мелодыку нашых уласных твораў значны.

**Сяргей:** Ва ўсялякім выпадку, стылізаваная музыка больш даступная для шырокіх народных мас. Каб у 1995 годзе мне хтосьці сказаў, што я буду любіць народную песню, то не паверыў бы. Але тым не менш гэта адразу вылілася ў такую цярплімасць, а потым і ў любоў.

**– Упершыню адзін аднаго убачылі, што падумалі?**

**Сяргей:** Першы раз мы ўбачыліся і падумалі, што трэба ехаць граць вяселле, зарабляць грошы (смяецца). Такое знаёмства было. Для мяне вельмі важна, калі ў чалавека ёсць пачуццё гумару. У Мішы яно такое яркае, своеасаблівае – мы яшчэ і таму агульную мову знаходзім. У нас, дарэчы, шмат гумарных песень.

А калі сказаць, што яго ўбачыў, і ўсё – паплечнік, такога, вядома, не было. Мы таксама прыціраліся доўгі час. Былі моманты, калі хтосьці захапляўся празмерна якімі напрацоўкамі, не пакідаючы месца для другога. З гадамі ўсё шліфавалася. Галоўнае – трэба навучыцца паважаць музычныя погляды, музычнае самавыяўленне твайго таварыша. Ніколі не трэба спяшацца выказваць сваё меркаванне: пачакай дзень, два, тры – яно ўляжацца і падумаеш: “А сапраўды, арганічна атрымліваецца”. Бяда многіх музыкантаў, што яны не ўмеюць паважаць меркаванне калег па цэху.

**– Значыць, цэніце ў таварышы пачуццё гумару. Што яшчэ?**

**Сяргей:** Адказнасць. Ведаю, што калі трэба нешта зрабіць, то Міша зробіць гэта своечасова і якасна. Цаню тое, што ён шмат хто ў адным – кіроўца, музыкант, вакаліст.

**Міхаіл:** Мы даўно сябраліся, я давяраю густу Сяргея і ніколі не перараблю тое, што зроблена ім. Ён – пунктуальны, адказны, працавіты і, як кажуць у народзе, цягавы.

**Сяргей:** Дзякуй, Міша. Два плугі можна чапляць, так? (усміхаецца)

## Гісторыя дуэта пачалася з “Кабаноў”

**– А дуэт “Браты-славяне” калі з'явіўся?**

**Сяргей:** Адразу былі ў “Весялінцы”. А потым дзесьці ў годзе 2004 у нас “папёрлі” гумарныя песні. Першая песня была пра кабаноў. У мяне маці трымала трох кабаноў і карову. Міша з Маладзечна, а “паншчыну адбываў” у бабулі ў Любані – там тая ж песня. Словам, тэматыка вясковая для нас не чужая, і мы пачалі жартаваць на гэту тэму. З'явілася песня “Кабаны”, народ успрыняў. Сталічныя людзі яе не зразумеюць, толькі той, хто вырас на гаспадарцы. І далей пайшло-паехала. “Рыбалка”, “Хачу ў сталіцу” – цэлая куча ў нас такіх песень.

**– Далей гісторыя “Братоў-славян” як развівалася?**

**Сяргей:** Атрымалася як. **Сяргей Шкурдзэ** гэтых самых “Кабаноў” пеў яшчэ ў “Весялінцы”. Калі ён працаваў у Беларускім дзяржаўным ансамблі “Песняры”, напеў на нейкай рэпетыцыі. І кіраўнік “Песняроў” **Вячаслаў Шарапаў** звярнуў увагу:“Што за песня такая прыкольная?”. Паклікалі нас (мой брат Валера ў той час ужо быў салістам у “Песнярах”). Паказалі матэрыял. Вячаслаў Шарапаў дапамог нам запісаць “Кабаноў”. Нас узялі на заметку, мы перыядычна прыязджалі, паказвалі свой рэпертуар.

Валера ўжо тады трымаў нос па ветры. Ён прыкінуў: “Ага. І жартоўныя песні ёсць, і лірычныя неблагія, нешта ад “Песняроў”, а нешта сваё”. Мы ніколі не капіравалі, не задаваліся мэтай кагосьці пераймаць. Потым з Валерам сталі шчыльна супрацоўнічаць у годзе 2009. Давалі канцэрты на невялікіх пляцоўках: Валера як саліст, мы як акампануючая група, плюс таксама пелі свае песні. А потым, калі ён у 2012 годзе сышоў з “Песняроў”, мы ўшчыльную заняліся гэтым праектам – “Браты-славяне” і **Валеры Скаражонак**.

**– Якая роля вашага брата ў праекце?**

**Сяргей:** Па-першае, у яго пазнавальны медыйны твар, яго можна назваць прадзюсарам – займаецца арганізацыйнымі момантамі. Плюс ён цудоўны вакаліст, мае такі рэдкі тэнар. І мы вельмі арганічна перапляатаемся утраіх. Мы з Мішам займаемся аранжыроўкай, прапісваем усё самі, і жывыя інструменты у тым ліку, толькі барабаны нам запісвае сябра Сяргей Шкурдзэ. Міша да таго ж цудоўна валодае камп'ютарнымі праграмамі для запісу.

**– А тэксты чые?**

**Міхаіл:** Яны ў нас агульныя, у сааўтарстве нараджаюцца. Тэксты падказвае жыццё. А яшчэ моцна дапамагае пачуццё гумару.

**– Як так атрымліваецца?**

**Сяргей:** А па-рознаму. Бывае два слупкі Міша прыдумае, адзін – я. А бывае кожны па радку – і думаем. Потым перадумаем. Самае галоўнае тое, што калі нараджаюцца якія мелодыі, тэксты, не трэба ставіцца да іх з пачуццём уласнасці. Справа ў тым, што большасць музыкантаў, паэтаў – дзікія ўласнікі. Талент табе дадзены, ты ўсяго толькі праваднік. На цябе праменьчык сышоў і ты нешта стварыў. Без гэтага праменьчыка, без Божай дапамогі не атрымаецца.

Мы з Мішай гэта даўно зразумелі, таму мы не крычым: “О я напісаў, о гэта маё”. Сёння ён нешта больш прыдумаў, заўтра я – і разам атрымліваецца.

**– І мелодыі агульныя?**

**Сяргей:** Як правіла. Бывае, на погляд Мішы ў мяне нейкі кавалак атрымаўся не вельмі ўдалы. Ён тады закруціць па-іншаму. Адразу, бывае, у штыкі ўспрымеш, а паслухаеш дзень-два і скажаш: “А ведаеш, твой варыянт лепшы”. Трэба проста ўмець чакаць і паважліва адносіцца да меркавання другога.

**Міхаіл:** Прытым, “Браты-славяне” як група сфарміраваліся падчас працы для душы. Гэта было як хобі. Мы ніколі не ставілі сваю творчасць на канвеер. Ніхто не падганяў: трэба для перадачы нешта напісаць ці канцэрта. Галоўнае не рамесніцтва. Ёсць натхненне – напісаў, а няма нічога арыгінальнага, лепей не брацца.

## Ад хард-року да “Братоў-славян”

**– У вас да “Братоў-славян” быў такі перыяд хард-рокавы...**

**Сяргей:** Дзесьці ў 1997 годзе Міша, я, Сяргей Шкурдзе і **Сяргей Ількевіч** заняліся паралельна з “Весялінкай” хард-рокам. Гурт “Парламент” год шэсць праіснаваў.

**– Вам дзе было больш утульна: у вобразе рокераў ці цяпер?**

**Сяргей:** У тым узросце здавалася, што я лепш самавыяўляюся ў року. Прайшоў час, зараз цаню кантакт з народам. Калі ты працуеш у хард-рокавай групе, то то ты як бы на дыстанцыі: вось такі быццам месія, які спрабуе павучаць, нейкія думкі выказаць людзям. А калі пачалі пець усе гэтыя песні – “Кабаны”, “Рыбалку” – мы заўважылі, што імгненна адбываецца кантакт з людзьмі. Ты бачыш іх вочы, і гэта зусім іншае. Зараз для мяне не

важны стыль. Вось гэтая музыка, вясёлая і простая, яна абуджае ў людзей добрыя эмоцыі, прымушае смяяцца ці перажываць, узнімае настрой. Чаго не скажаш пра рок. Рок-музыка – яна ў прынцыпе энергічная, таксама пабуджае да дзеяння, але як правіла жорсткасць музыкі прадугледжвае тэксты нерамантычныя, парой трагічныя. Пасля канцэрта няма таго адчування, што ты падараваў людзям дабро. А пасля "Кветачкі" ці жартоўных песень – у зале наступае асаблівая атмасфера. Мы спяваем пра тое, што да болю зразумела, але, можа, у паўсядзённым жыцці людзі не звярталі ўвагі на такія моманты.

Не трэба любіць сябе ў вобразе, калі ты выступаеш. А трэба любіць людзей – вось гэта самае галоўнае.

### "Дранікі" на ура прымаюць у Расіі

**– Дзе з гастролямі "Браты-славяне" былі?**

**Сяргей:** У асноўным, у Беларусі. Бываем у Расіі. Тым больш Валеру там многія ведаюць. Там і нашы песні няблага ўспрымаюць. Успомнілі пра песню "Дранікі" Ігара Паліводы, якія была напісаная ў 1992 годзе, для "Калекцыі беларускіх хітоў" аранжыравалі па-свойму. Былі ў Расіі, два тыдні па Растоўскай вобласці выступалі. Песня абсалютна незнаёмая, на беларускай мове. А народ уставаў і апладзіраваў. "Дранікі духмяныя, дранікі са шкваркамі"– усім усё зразумела.

Тым больш што ў Валеры такая фактура, больш за 100 кілаграм – якраз пад гэту песню. Спявае: "У Беларусі бульба не звядзецца". Гледзячы на Валеру, усе адразу разумеюць – так і ёсць, не звядзецца.

**– Ведаю, вы і ў дабрачынных канцэртах удзельнічаеце...**

**Сяргей:** Грошы, вядома, добра: з гэтага жывеш. Але яны – не ўсё ў жыцці. Калі нас запрашаюць і маем час, атрымліваецца выступіць, – чаму б не.

**Міхаіл:** Як жа ў такой справе адмовіш? Тым больш, што дабрачынныя канцэрты дадаюць сілы.

**– Апошнія гады нярэдка на тэлебачанні з'яўляецеся. Які лічыце, які ваш найбольшы поспех?**

**Сяргей:** Самы вялікі поспех, што наша песня "Кветачка" трапіла на тэлеканале ОНТ у "Песню года". Хай яна не перамагла ў нейкай намінацыі, але было 300 заявак – і наша песня ўвайшла ў лік 30-ці лепшых песень.

**Міхаіл:** Усе асноўныя беларускія тэлеканалы яе паказалі. Гэта прыемна.

**– Ведаю, вы альбом першы збіраецеся выпусціць...**

**Сяргей:** Ёсць такая задума. Думаем, што гэта будзе бліжэй да канца года.

### "Вілейка – горад утульны"

**– Не шкадуеце, што жывяце ў Вілейцы, у правінцыі? Здаецца, для артыста ў Мінску было б больш перспектыў?**

**Сяргей:** Я тут нарадзіўся і вырас. Гарадок утульны, мне падабаецца. Жыву ў прыватным доме. Лужок, елачкі – гэта супакойвае, энергетычна аднаўляе. Трэба да рэчкі – пяць хвілін ад дому і я там. Вакол лясы. Атрымліваецца, як бы ў горадзе жывеш і як бы ў вёсцы. Чым больш населены пункт, тым больш нервознасці, мітусні ў людзей. А што датычыць творчасці, то спешка, мітусня, для яе не лепшы таварыш.

Што тычыцца Мінска, то жонка ў мяне мінчанка, маглі б там жыць. Але не маё. Прыехаць у сталіцу, папрацаваць, выступіць, па крамах праехаць – так, здорава. Але для душэўнага спакою – у Вілейцы лепш.

**Міхаіл:** Я нарадзіўся ў Маладзечне. Жыву ў Вілейцы, прыжыўся ўжо. Тут неяк больш спакойна і ўтульна. Такая абстаноўка спрыяе разуменню свайго месца ў жыцці.

**– Як вас па тэлебачанні пачалі паказваць, што людзі сталі гаварыць у Вілейцы?**

**Сяргей:** Адносіны розныя. Хтосьці радуецца, падыходзіць, абдымае. Хтосьці пачынае дыстанцыю трымаць:"Вы ж цяпер "зоркі". Якія мы зоркі, нічога ж не змянілася! Ды і само паняцце "зорка" – гэта глупства поўнае. Вось у Савецкім Саюзе не было такога паняцця, было – "папулярны артыст". Вось гэта добра. У гэтым плане паважаю **Юрыя Шаўчука** з ДДТ – настолькі ён просты. Ён не крывіць душой: як на сцэне да людзей з усёй душой, так і ў жыцці. А ў многіх артыстаў, атрымліваецца, на сцэне адзін імідж, а ў жыцці – "я недасягальны".

**– Асноўнае месца працы ў вас – выкладчыкі музыкі Вілейскай гімназіі №2. Чаму дзяцей вучыце?**

**Сяргей:** Я – ігры на класічнай гітары.

**Міхаіл:** На акардэоне і блок-флейце.

**– Як з цікавасцю ў дзяцей да заняткаў?**

**Сяргей:** Яна меншае, нават яшчэ год дзесяць таму большая была. Славу Богу, ёсць такія дзеці, у якіх вочы гараць, якія радасна бяруцца за інструмент. Усе бяда ў тым, што раней, калі не было камп'ютара, кожны хацеў быць творцам. Не важна, як як ён гэтыя акорды з-за вуха вывучыць. Помню, кожны другі ў парку сядзеў, тромкаў на гітары, каб на дзяўчыну ўражанне зрабіць. Не важна, што не спяваеш – хоць прагугнявіш нешта, на гітары падыграеш – ты ужо герой. А зараз хочаш зрабіць уражанне – прыйдзі з крутым тэлефонам, у крутых шмотках.

**Міхаіл:** Цікавасць ёсць: артыстаў з акардэонам паказваюць па тэлебачанні. Але ж гэта трэба займацца, патрэбны намаганні. А дзеці ўжо прывыклі, што зараз усё ў руках, толькі націсні – навошта вучыцца?!



Удзельнікі ансамбля народнай музыкі "Весялінка" (злева направа) .
Верхні рад: Іван Валынец, Сяргей Ількевіч, Сяргей Скаражонак, Міхаіл Ермаковіч.
Ніжні рад: Аксана Зюбіна, Таццяна Новікава, Святлана Гакуць, Алёна Мамай, Святлана Каркотка.

Фота забяспечана Міхаілам ЕРМАКОВІЧАМ і Сяргеем СКАРАЖОНКАМ.

### Пра любімую музыку і канцэрты

**– Ваша любімая музыка?**

**Сяргей:** "Pink Floyd", Стынг – у іх шмат пераняў у плане аранжыровак.

У "Песнярах" 80-х гадоў аранжыроўкі вельмі яркія – у іх вучыўся. І па галасах ёсць чаму павучыцца. І яшчэ такі гурт быў стары "Арэра" – па галасах моцна гучалі. "Queen" – гэта вышэйшая ліга, што датычыць галасавядзення,

"E. L. O." – у іх таксама ёсць чаму павучыцца.

Складаная музыка – не значыць душэўная. Мы, наадварот, імкнемся складаных партый для гітары, клавішных не браць, бо гэта не самае галоўнае. У "The Beatles" усё вельмі проста, але для душы тое, што трэба.

**Міхаіл:** Выканаўцы і гурты ў стылі "джаз-рок", класічная сімфанічная музыка.

Пад настрой магу ўключыць і поп-музыку. Увогуле, люблю слухаць музыку, там дзе яна сапраўды ёсць. У "ABBA" па мелодыцы такія цудоўныя песні: меладычныя і запамінальныя. Мне яшчэ фальклор падабаецца ў выкананні традыцыйных носьбітаў.

**– Над песнямі дзе працуеце?**

**Сяргей:** Ёсць неабходныя ўмовы ў гімназіі, але часцей гэта адбываецца дома. Цяпер з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі працаваць усюды зручна.

**Міхаіл:** Сяргей Шкурдзэ працуе з намі ўвогуле дыстанцыйна. Яму па электроннай пошце перасылаем "чарнавік", а ён праслухоўвае і праз нейкі час вяртае ўжо гатовыя запісаныя партыі ўдарных.

**– А з рэпертуару "Братоў-славян" якая самая любімая песня для вас?**

**Сяргей:** Над якой працуеш, тая самая і любімая. Не магу вылучыць самую любімую. Прытрымліваюся меркавання лідара "Pink Floyd" Дэвіда Гілмара: "Любімая песня? Яна яшчэ не напісаная".

**Міхаіл:** У нас ёсць аднайменная песня "Браты-славяне". Не скажаш, што яна самая лепшая, але для мяне яна каштоўная, бо адлюстроўвае нашы думкі. У кожную песню ўкладваеш частку душы, таму яны ўсе для нас любімыя.

**– Самы запамінальны ваш канцэрт?**

**Сяргей:** Складана сказаць. Самае значнае выступленне адбылося мінулым годам на "Славянскім базары". Хоць усё вырашалася спантанна, але менавіта ад гэтага канцэрта мы атрымалі вялікае задавальненне. Зала шматтысячная і цябе слухаюць, прымаюць, апладзіруюць. Гэта здорава! Спявалі рускую версію "A hard`s days night" "The Beatles". Ну і ўручэнне дыплома на "Песні года" за кампазіцыю "Кветачка" запомнілася таксама.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

E-mail:
alvy@tut.by



Фота забяспечана Міхаілам ЕРМАКОВІЧАМ і Сяргеем СКАРАЖОНКАМ.

Валеры Скаражонак (злева) і гурт "Браты-славяне".




Фота забяспечана Міхаілам ЕРМАКОВІЧАМ і Сяргеем СКАРАЖОНКАМ.

Гурт "Парламент" (злева направа) Сяргей Шкурдзэ, Сяргей Скаражонак, Міхаіл Ермаковіч, Сяргей Ількевіч.

ФУТБОЛ

# Каляндар матчаў ФК "Смаргонь" у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе

| Тур | Дата | Каманды |
|---|---|---|
| 3 | 3 мая (субота) | **"Смаргонь" – "Бяроза–2010"** |
| 4 | 7 мая (серада) | "Хімік" (Светлагорск) – "Смаргонь" |
| 5 | 11 мая (нядзеля) | **"Смаргонь" – "Мінск-2"** |
| 6 | 17 мая (субота) | **"Смаргонь" – "Іслач"** |
| 7 | 25 мая (нядзеля) | **"Смаргонь" – "Смалявічы-СТІ"** |
| 8 | 31 мая (субота) | "Гомельчыгунтранс" – "Смаргонь" |
| 9 | 7 чэрвеня (субота) | **"Смаргонь" – "Рэчыца -2014"** |
| 10 | 15 чэрвеня (нядзеля) | "Гарадзея" – "Смаргонь" |
| 11 | 21 чэрвеня (субота) | **"Смаргонь" – "Славія " (Мазыр)** |
| 12 | 28 чэрвеня (субота) | "Ліда" – "Смаргонь" |
| 13 | 5 ліпеня (субота) | **"Смаргонь" – "Хваля"(Пінск)** |
| 14 | 12 ліпеня (субота) | "Зорка –БДУ"(Мінск ) – "Смаргонь" |
| 15 | 19 ліпеня (субота) | **"Смаргонь" – "Слонім"** |
| 16 | 9 жніўня (субота) | **"Смаргонь" – "Граніт"(Мікашэвічы)** |
| 17 | 17 жніўня (нядзеля) | **"Смаргонь" – "Віцебск"** |
| 18 | 30 жніўня (субота) | "Бяроза-2010" – "Смаргонь" |
| 19 | 6 верасня (субота) | **"Смаргонь" – "Хімік" (Светлагорск)** |
| 20 | 13 верасня (субота) | "Мінск-2" – "Смаргонь" |
| 21 | 20 верасня (субота) | "Іслач" – "Смаргонь" |
| 22 | 27 верасня (субота) | "Смалявічы-СТІ" – "Смаргонь" |
| 23 | 4 кастрычніка (субота) | **"Смаргонь" – "Гомельчыгунтранс"** |
| 24 | 11 кастрычніка (субота) | "Рэчыца-2014" – "Смаргонь" |
| 25 | 18 кастрычніка (субота) | **"Смаргонь" – "Гарадзея"** |
| 26 | 25 кастрычніка (субота) | "Славія"(Мазыр ) – "Смаргонь" |
| 27 | 1 лістапада (субота) | **"Смаргонь" – "Ліда"** |
| 28 | 8 лістапада (субота) | "Хваля" (Пінск) – "Смаргонь" |
| 29 | 15 лістапада (субота) | **"Смаргонь" – "Зорка-БДУ"(Мінск)** |
| 30 | 22 лістапада (субота) | "Слонім" – "Смаргонь" |

**Тлустым пазначаныя дамашнія матчы.**

# Каляндар гульняў 24-га нацыянальнага чэмпіянату Беларусі па футболе сярод каманд другой лігі сезона 2014/15 года

| Тур | Дата | Дамашнія матчы | Гуляюць у гасцях |
|---|---|---|---|
| 1 | 27 красавіка (нядзеля) | ФК "Неман" (г.Масты) | ФК "Маладзечна-2013" (Маладзечна) |
| 2 | 4 мая (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013" | ФК "БАРАНАВІЧЫ" |
| 3 | 10 мая (субота) | ФК "ЛІВАДЗІЯ" | ФК "Маладзечна-2013" (Маладзечна) |
| 4 | 18 мая (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "КЛЕЦК" |
| 5 | 1 чэрвеня (нядзеля) | ФК "КОЛАС-ДРУЖБА" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 6 | 7 чэрвеня (субота) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "ЮА-Буд-Жыткавічы" |
| 7 | 15 чэрвеня (нядзеля) | ФК "ПАРТЫЗАН-2002" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 8 | 22 чэрвеня (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "КРУМКАЧЫ" |
| 9 | 29 чэрвеня (нядзеля) | ФК "ТАРПЕДА" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 10 | 6 ліпеня (нядзеля) | ФК "УЗДА" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 11 | 12 ліпеня (субота) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "КОБРЫН" |
| | | **ДРУГІ КРУГ** | |
| 12 | 16 ліпеня (серада) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "НЁМАН" |
| 13 | 20 ліпеня (нядзеля) | ФК "БАРАНАВІЧЫ" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 14 | 27 ліпеня (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "ЛІВАДЗІЯ" |
| 15 | 3 жніўня (нядзеля) | ФК "КЛЕЦК" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 16 | 10 жніўня (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "КОЛАС-ДРУЖБА" |
| | **13 жніўня 2014 г. – Рэзервовы дзень** | | |
| 17 | 17 жніўня (нядзеля) | ФК "ЮА-БУД-ЖЫТКАВІЧЫ" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 18 | 24 жніўня (нядзеля) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "ПАРТЫЗАН-2002" |
| 19 | 31 жніўня (нядзеля) | ФК "КРУМКАЧЫ" | ФК "Маладзечна-2013 |
| 20 | 6 верасня (субота) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "ТАРПЕДА" |
| 21 | 13 верасня (субота) | ФК "Маладзечна-2013 | ФК "УЗДА" |
| 22 | 20 верасня (субота) | ФК "КОБРЫН" | ФК "Маладзечна-2013 |

**Фінальны этап пачынаецца 28 верасня.**

ХАКЕЙ

## Стварэнне "Дынама-Маладзечна" абыдзецца ў 20 мільярдаў рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Кіраўніцтва хакейнага клуба "Дынама" (Мінск) правяло прэс-канферэнцыю. Генеральны менеджар клуба **Уладзімір Беражкоў** закрануў на ёй тэму клуба "Дынама-Маладзечна", паведамляе by.tribuna.com.

– "Дынама-Маладзечна" – гэта не фарм-клуб, а каманда структуры "Дынама -Мінск". Усе кажуць: "Навошта вам гэта трэба? Бярыце са школы". Няма чаго там браць! "Маладзечна" – гэта каманда пераходнага перыяду для гульцоў 21-22 гадоў. Наша задача – праца на нацыянальныя зборныя. Гэта не толькі нацыянальная, але і юнацкая і моладзевая каманды. Спецыяльна з гэтай мэтай мы стварылі "Дынама-Маладзечна". Мы свядома выбралі для сябе гэты шлях. У Маладзечне будуць гуляць хакеісты, якія не падыходзяць ў "Дынама-Шынннік" – ад 21 да 23 гадоў. Як правіла, гулец расцвітае ў 24-25 гадоў. "Дынама- Маладзечна" павінна дапамагчы ў справе развіцця гульцоў.

Зарплатная "столь" у Маладзечне не будзе перавышаць 25 тысяч долараў. Шмат там не заробіш, але вырасці ў хакеіста можна.

### "Дзмітры Краўчанка выдатна ўмее працаваць з моладдзю"

Вось што **Уладзімір Беражкоў** расказаў пра галоўнага трэнера "Дынама-Маладзечна" **Дзмітрыя Краўчанку**:

– Дзмітрый Аляксандравіч даказаў, што выдатна ўмее працаваць з моладдзю. Ён рабіў гэта ў Гомелі, ён рабіў гэта ў Гродне. Цяпер зноў узяўся за гэтую працу. Ён будзе не толькі працаваць у "Дынама-Маладзечна", але і сачыць за працай школы.

Рэпутацыя Краўчанкі? Ёсць два розныя чалавекі: адзін – нармальны, іншы – калі нешта здарацца. Размова пра гэта ішла ад самага пачатку. Першае, што патрабуецца ад трэнера, – гэта рэжым. Усе мы не без граху. Не ўпэўнены, што гарадзенская гісторыя ўжо скончылася. Але я чакаю яе заканчэння. Як чалавек і прафесіянал Краўчанка добры. Спадзяюся, гэты ўрок быў для яго апошнім.




**Генеральны менеджар клуба "Дынама" (Мінск) Уладзімір Беражкоў і генеральны дырэктар Максім Суботкін расказалі пра будучыню "Дынама-Маладзечна".**

Многія хлопцы проста хочуць гуляць у Краўчанкі. Яны ведаюць яго як трэнера. Напрыклад, **Ян Шаляпнёў** хоча гуляць у "Дынама-Маладзечна". Па яго варотах кідаць будуць шмат і са страшнай сілай. Гэтая каманда будзе рэкардсменам па кідках ва ўласныя вароты. Ён сапраўды будзе мець гульнявую практыку. Па гэтай прычыне Ян адхіляе вельмі добрыя прапановы моцнага клуба экстра-лігі. І гэта не адзінкавы выпадак – людзі ідуць не проста пад марку "Дынама", а пад трэнера.

### "Укладзёмся ў 20 мільярдаў"

Генеральны дырэктар мінскага "Дынама" **Максім Суботкін** заявіў: "На стварэнне "Дынама-Маладзечна" мы ўкладзёмся ў 20 мільярдаў беларускіх рублёў. Расходная частка сфарміравана".

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## Стартаваў турнір па міні-футболе

**ВІЛЕЙКА.** Турнір па міні-футболе на штучным пакрыцці стартаваў 27 красавіка ў Вілейцы. Гульні праходзяць на пляцоўцы сярэдняй школы №1.

Для ўдзелу заявіліся 18 каманд, у тым ліку з Мядзела і Маладзечна. Яны падзеленыя на чатыры групы, расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

Адразу каманды згуляюць у групах па кругавой сістэме. А потым па дзве лепшыя каманды з кожнай групы працягнуць барацьбу ў фінальнай частцы, а іншыя аспрачаць месцы з 9-га па 18-е.

Турнір завяршыцца ў сярэдзіне чэрвеня.

## Лідары згулялі ўнічыю

**ВІЛЕЙКА.** Ад 22 красавіка пачаліся гульні на Кубак Вілейскага раёна па футболе. У турніры ўдзельнічаюць восем каманд. Яны падзеленыя на чатыры групы.

У адной з груп лідзіруюць каманды "Першы Беларускі" і "Буддэталі". Яны маюць па чатыры ачкі пасля дзвюх гульняў. Згулялі яны і паміж сабой, вынік – нічыя 2:2.

У іншай групе ў лідарах каманда "Крыніца" з Маладзечна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чэмпіянат Мінскай вобласці бярэ старт 1 мая

**МАЛАДЗЕЧНА.** Першую гульню сезона 2014 каманда ДЮСШ згуляе ў гасцях у каманды з Барысава.

Трэнер **Аляксандр Гармаза** распавёў "Рэгіянальнай газеце", што ў сезон заяўленыя шэсць гульцоў 15-гадовага ўзросту. Гэта самыя малодшыя гульцы каманды. Таксама, на чэмпіянаце вобласці згуляюць трое гульцоў, якія паралельна ўваходзяць і ў склад каманды "Маладзечна-2013". Гэта **Юры Бугай, Прохар Новікаў і Павел Суман.**

Першая дамашняя гульня каманды ДЮСШ адбудзецца 9 мая на гарадскім стадыёне. Пачатак гульні а 14 гадзіне. Прымаць у сябе будзем каманду "Колас-Чэрвень".

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### "Іменем Рэспублікі Беларусь": расстраляны Павел Сялюн з Вілейкі

А ці былі бацькі ў загінулых, як іх звалі, у якім яны цяпер стане, ці маюць яны якуюнебудзь падтрымку, можа, хоць прэса ўдзяляе якую ўвагу, ці яны, як у нас звычайна, у адзіноце перажываюць сваё гора? Ці вытрымала сэрца маці, калі даведалася пра свайго сына вось такое? "Труп апошняга злачынец расчляніў і выкінуў у смецевы бак, а галаву забраў з сабой. Менавіта з галавой у сумцы яго неўзабаве затрымалі праваахоўнікі ў Ваўкавыску." – Як бачна, забойца ўвагай не абдзелены! Лічу, што гэта не той выпадак, каб яго ў ААН разглядалі? *Алесь Раткевіч.*

Мне сапраўды страшна падумаць, як бацькам забітых. Але сына і дачку ім ужо ніхто ніякімі дзеяннямі не верне. Трэба людзей вучыць дараваць, а не помсціць. Тады мы з вамі будзем спакойна, без боязі шпацыраваць па вуліцах. І вы вельмі правільна заўважылі пра тых, каго расстрэльваюць спачатку, а потым апраўдваюць. Дык няхай бы пакарання гэтага не было. Тады б і гэтая праблема сама сабой вырашылася. Узяць і расстраляць - лёгка. Няма чалавека - няма праблемы. Але ж каб мы кожную праблему так вырашалі, то ўжо ўсе адзін аднаго б перастралялі. *Ластаўка.*

Ластаўка, "Трэба людзей вучыць дараваць, а не помсціць". Скажыце, калі ласка, а хто іх будзе вучыць, калі пушчана ўсё на самацёк?! Каб чалавек жыў па-чалавечаму і добра ўсведамляў наступствы сваіх дзеянняў, трэба мець моцную духоўную царкву, а не камерцыйную ўстанову. Мець дасканалыя законы, а не такія, што як дышла: куды павярнуў, туды і выйшла! Але якая б царква і законы не былі, мы самі ў першую чаргу павінны кожны дзень і кожную хвіліну разумець і адчуваць адказнасць за свае ўчынкі. А разумець і адчуваць чалавеку дадзена толькі праз страх і боль. У нас павінен пастаянна прысутнічаць страх перад Богам, альбо перад астрогам. А калі мы пазбаўлены ў дадатак і душэўнага болю, то можа паўздзейнічаць на нас толькі боль фізічны. Кожны пакідае выбар за сабой. Вы кажаце: "Узяць і расстраляць – лёгка. Няма чалавека – няма праблемы." У наш час так. Але ж каб ведаў той самы следчы ці суддзя, што за незаконна расстралянага будзе расстраляны ён сам, то, думаецца, гэтай праблемы не было б. *Алесь Раткевіч.*

### Вілейка. Шмат парушэнняў знайшлі на фабрыцы дзвярэй

3 даўніх часоў існуе прымаўка: "Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць!" А ў дадзеным выпадку, мне здаецца, вельмі добра пасуе наступнае: "Паны крадуць, а мужыкам штрафы даюць!" Дзіву даешся, глядзячы на такія "справядлівыя" прысуды! Той, хто краў "аж" 2 мільёны, штрафу атрымаў. А тая, якія аддана працавалі, 26 мільёнаў атрымалі! Жах і толькі! *Ластаўка.*

### У Вілейцы пройдзе выстава маладой мастачкі

Вольга – мая школьная сяброўка! Яна вельмі шчыры і чулы чалавек! Я вельмі за яе рада, што нарэшце ў яе будзе свая выстава! Ты вялікая малайчына! Поспехаў! *Вера.*

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | 8 | | | 6 | 2 | | |
| 1 | | 9 | | | | 8 | | 3 |
| | 6 | | | | | 4 | | |
| | 8 | | | 3 | 9 | | | |
| 2 | | | 1 | | 7 | | | 9 |
| | | | 8 | 6 | | | 3 | |
| | | 2 | | | | | 7 | |
| 8 | | 1 | | | | 9 | | 4 |
| | | 7 | 4 | | | 5 | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

Раніцай у адным з двароў Маладзечна.
– Прыходзь да мяне сёння, для цябе падарунак ёсць.
– Добра, добра, зазірну. А ў мяне праўнук нарадзіўся! – перамаўляюцца жанчыны наўпрост з балконаў.



## ● ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Што для Беларусі Еўропа?

| | |
|---|---|
| 48%: | Мы і ёсць Еўропа |
| 30%: | Мара |
| 12%: | Дзе цікава і нядорага падарожнічаць |
| 6%: | Куды можна ездзіць на закупы |
| 3%: | Дзелавы партнёр |
| 0%: | Вораг |

Усяго галасоў 33

## ● РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Баявік, крымінал "**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, Канада, 2014, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
2 мая – 19.00
3 мая – 21.00
4 мая – 19.00
6 мая – 21.00
8 мая – 19.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Новы чалавек – павук: Высокае напружанне**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
2 мая – 21.00
3 мая – 18.00
4 мая – 16.00
5 мая – 21.00
6-7 мая – 18.00
8 мая – 21.00
Кошт білета – 45 000-55 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды "**Хуткі "Масква-Расія"**" (Расія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
2.05 – 17.00
3.05 – 16.00
4.05 – 21.00
5.05 – 19.00
7.05 – 21.00
8.05 – 19.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Меладрама "**Бабруйск-Дакар**" (Беларусь, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў) + творчая сустрэча
6 мая – 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Рыа 2**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
3-4 мая – 14.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 мая – 17.00
3-4 мая – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Адкупленне**" ( Расія, 2011, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
2-4 мая, 6-8 мая – 19.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Камедыя "**Палярны рейс**" (Украіна, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
2-8 мая – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Музычна-паэтычны спектакль на мелодыі і вершы аб Вялікай Айчыннай вайне "**Памяць за сабой пазаві...**"
6, 8, 9 мая, сцэна драмтэатра - 16:00
7 мая, сцэна Палаца культуры - 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Маша і Мядзьведзь**", *У. Швэмберг*
4 мая - у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ● ГАРАСКОП (2-8 МАЯ)



**Авен.** Не грэбуйце правіламі здаровага ладу жыцця. Беражыце страўнікава-кішачны тракт і печань. Адмоўцеся ад спажывання алкаголю. Знайдзіце яму замену – цікавае хобі, напрыклад.



**Цялец.** Вы атрымаеце падтрымку сям'і, сяброў і партнёраў ва ўсіх пачынаннях. Але пагардлівыя адносіны да іх сыграюць злы жарт.



**Блізняты.** Не ўкладайце грошы ў тыя праекты, якія выклікаюць хоць маленькае сумненне.



**Рак.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівы, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.



**Леў.** Вам трэба часцей заставацца сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце, задумацца аб сваім жыцці, адмовіцца ад старых прывычак. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой.



**Дзева.** Не сумнявайцеся ў сваіх сілах, не бойцеся цяжкасцей. Цалкам магчыма, што блізкі чалавек паставіць вас перад выбарам: каханне ці кар'ера. І гэты выбар стане для вас вызначальным.



**Шалі.** Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўны вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу.



**Скарпіён.** У шмат каго ажыццявіцца запаветная мара, звязаная з далёкімі падарожжамі. Не будзьце абыякавыя да здароўя, каб пасля не прыйшлося адмовіцца ад сваёй мары дзеля лячэння.



**Стралец.** Навучыцеся мастацтву кампрамісаў, каб не страціць каханага. Уціхамірце сваю гарачнасць, праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках.



**Казярог.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Вам трэба набрацца сіл, упэўненасці ў сабе і цвёрда сказаць ім "не".



**Вадалей.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, паніжэння ці павышэння ціску, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.



**Рыбы.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар
+375 (29) 67-68-420,
на e-mail regionnews@rh.by
або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

**3 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +11 | | +6 / +10 | | +8 / +17 | | +5 / +11 | |
| | 741 | ↓ 4 | 746 | ↓ 3 | 741 | → 2 | 746 | ↓ 4 |
| Вільня | +4 / +11 | | +3 / +10 | | +1 / +12 | | +5 / +11 | |
| | 753 | ↓ 4 | 758 | ↓ 3 | 755 | ↗ 4 | 757 | ↓ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, заход па Маладзечне

Усход 5.44
Захад 20.36
Даўжыня дня 14.52

Усход 4.32
Захад 17.16
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +5 / +10 | 750 | ↘ 1 |
| Гродна | +6 / +11 | 755 | ↓ 4 |
| Мінск | +6 / +10 | 746 | ↓ 3 |
| Магілёў | +5 / +10 | 747 | ← 1 |
| Брэст | +7 / +7 | 753 | ↙ 8 |
| Гомель | +11 / +18 | 748 | ↙ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Май не халодны, дык галодны.
- Юр'я (6 мая). На Юр'я дождж – скаціне лёгкі год, а на грэчку нярод. Калі на Юр'я мароз – будзе проса і авёс.

# Чытайце праз тыдзень:

**Чаму на скатаў можна глядзець бясконца, чым ракавінкі падобныя на сняжынкі і чаму настаўнік біялогіі лічыць сябе Нептунам, чытайце ў размове з калекцыянерам Віталем Ганецкім у наступным нумары "РГ".**



## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Да 18 стагоддзя ў многіх краінах Азіі ў якасці грошай выкарыстоўвалі прэсаваныя чайныя брыкеты.

* Самая распаўсюджаная на кухні трава – пятрушка.

* Самая дарагая спецыя – іспанскі шафран.

* Сярэдні ўраган доўжыцца дзевяць дзён.

* 630 шаўкапрадаў працуюць, каб зрабіць адну шаўковую блузку.

* 1000 год спатрэбіцца кроплі вады. Каб зрабіць кругласветнае падарожжа і вярнуцца ў тое самае месца.

* Патрэбна 70 розных драўляных дэталяў, каб зрабіць з іх скрыпку.

* Большасць замяняльнікаў малака, якія даюцца, напрыклад, да кавы, гаручыя.

* Кіслотны дождж упершыню здарыўся ў 1852 годзе.

* Для арганізма лепш два чатырохгадзінныя цыклы сну, чым адзін васьмігадзінны.

* З нафты можна атрымаць да мільёна хімічных злучэнняў, а з каменнага вугля - чатырыста тысяч.

* Сонца кожную секунду пераўтвараюць чатыры мільёны матэрыі ў энергію.

* Калі б чалавек без скафандру трапіў у космас, ён бы выбухнуў раней, чым задыхнуўся. У космасе няма ціску кіслароду.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ
### Ў МАЛАДЗЕЧНЕ, ВАЛОЖЫНЕ

# Колькі дзяцей мець у сям'і аптымальна?



**Сяргей Гарбуз, выкладчык музыкі:**

– Я мяркую, не менш за трох. Трэба павялічваць колькасць насельніцтва краіны. Ад кожнай сямейнай пары даеш па тры дзіцёнкі! А аднаму расці сумна, ведаю па сабе.



**Алена Квач, настаўніца:**

– Няма для дзяцей аптымальнай колькасці. Тут усё залежыць ад бацькоў. Колькі яны могуць сабе дазволіць, столькі і патрэбна мець дзяцей.



**Валянціна Тамковіч, пенсіянерка:**

– Двое дзяцей – гэта найлепш. У нашай краіне, калі мець трох і болей дзяцей, можна працягнуць ногі.



**Міхаіл Чабай, студэнт:**

– Трое дзяцей. Спачатку хлопчыка і дзяўчынку, а пазней, праз 10 год, яшчэ аднаго, каб пацешыць сябе.



**Уладзімір Кулік, начальнік вузла сувязі, Івянец:**

– У сям'і павінна быць больш за трох дзяцей. Трое аптымальна, але не блага і пяць. Можна тады сваю сямейную хакейную каманду ствараць.



**Анастасія Школьнікава, дэфектолаг:**

– Я хачу траіх дзяцей. Калі дзяцей многа, у такой сям'і жывецца больш весела, дружна і хораша. Пакуль жа мы выхоўваем адну дачушку.



**Юры Сянкевіч, настаўнік:**

– Я хачу дваіх дзяцей, траіх я не пракармлю. А пакуль няма ні аднаго. І ў гэтым месцы павінен быць сумны смайлік.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 18 (992) 2.05.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 376. Падпісана ў друк у 9.00 30.04.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.